—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
24
СТУДЗЕНЯ
1992 г.
№ 4 (3622)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)



Гэта не заграніца. Гэта — Траецкае прадмесце Мінска.

Фота Аляксея МАЦЮША.

ЧЫТАЙЦЕ Ў НУМАРЫ

## ЦІ ПАСПЕЕМ ВЫЖЫЦЬ?

Уладзімір СТАРЧАНКА: «Цяпер мы маем справу з выхаваным за дзвесце год нацыянальным нігілізмам большай часткі насельніцтва рэспублікі. Вялікая колькасць беларусаў у падсвядомасці атаясамлівае сябе з расейцамі і таму пазбаўлена магчымасці бачыць свае ўласныя нацыянальныя інтарэсы».

СТАРОНКА 4

## БРЭЙК-ДАЎН па-беларуску?

Спартак ПОЛЬСКІ: «Нацыянальны характар — гэта не выдумка, а рэальнасць, з якой трэба лічыцца, але якой нялёгка даць дакладнае вызначэнне».

СТАРОНКІ 5, 12

## НА ВЫСОКІМ АЛТАРЫ

Алег ЛОЙКА: «Сучаснасць у паэзіі — гэта не толькі паэзія сучасная, паэзія надзённасці. Сёння сучасныя і Максім Багдановіч, і Уладзімір Караткевіч, і Яўгенія Янішчыц, як і Уладзімір Жылка, як і Алесь Салавей... Бо сучаснае сёння ў паэзіі—гэта найперш створанае на ўзроўні XX стагоддзя».

СТАРОНКІ 6—7

## УБАЧЫЎШЫ І ПАЧУЎШЫ...

Заір АЗГУР: «Мы імкнёмся адлюстраваць хараство і гармонію прыроды. Чэрпаем у ёй формы і колер. Мастак узнаўляе тое, што бачыць, што чуе...»

СТАРОНКІ 10—11

# Ці ёсць будучыня ў Дэмкангрэса

11 — 12 студзеня 1992 г. у Кіеве праходзіў Кансультацыйны Савет (КС) Дэмакратычнага Кангрэса. Гэта быў першы форум дэмакратаў пасля леташняга, які праходзіў у Мінску. Як вядома, Дэмкангрэс аб'ядноўвае дэмакратычныя партыі і рухі былога Саюза. Галоўная мэта кангрэса — цывілізаваны дэмантаж імперскіх структур і будаўніцтва свабодных суверэнных дзяржаў. На гэты раз геаграфія ўдзельнікаў адчувальна паменшылася. З Прыбалтыкі не прыехаў ніхто. Увесь Каўказ прадстаўляў адзін чалавек — Ара Сіпанян з аб'яднання «Нацыянальнае самавызначэнне Арменіі». З Сярэдняй Азіі быў таксама адзін прадстаўнік — ад Туркменістана. Беларусь *прадстаўлялі Аб'яднаная дэма*кратычная партыя на чале з Аляксандрам Дабравольскім і БНФ (Анатоль Астапенка, Валерый Буйвал).

А вось Расія была прадстаўлена вельмі шырока. Каго тут толькі ні было: сацыял-дэмакраты, проста дэмакраты, канстытуцыйныя дэмакраты, хрысціянскія... Ну і, вядома, былі дэлегаты ад розных палітычных рухаў Украіны.

Ад беларускай дэлегацыі выступіў спачатку А. Дабравольскі, які даў характарыстыку палітычнага жыцця Беларусі, распавёў пра пагаршэнне эканамічнага становішча ў рэспубліцы. Ён адзначыў, што ўвядзенне так званых свабодных цэнаў *прывяло толькі да* новага вітка інфляцыі.

Затым было дадзена слова дэлегацыі БНФ, ад імя якой выступіў аўтар гэтых радкоў. Быў зроблены акцэнт на нежыццяздольнасці нашага цяперашняга парламента, на неабходнасці ягонага роспуску, за што БНФ і іншыя дэмакратычныя сілы збіраюцца змагацца шляхам правядзення рэферэндуму.

У большасці выступаючых з Расіі дамінавала жаданне зменшыць нацыянальныя праблемы і перавесці працу кангрэса на выгадныя для іх рэйкі. Так, сп. Лысенка з Рэспубліканскай партыі праводзіў думку, што з дасягненнем незалежнасці «национализм иссякает» і задачы кангрэса зводзяцца «к экономическим проблемам». Сп. Плотнікаў (парламенцкая група «Расія») выступіў за захаванне рэшткаў цэнтра былога Саюза, але без комплексу «старэйшага брата». Грунтоўны даклад зрабіў ад Сацыял-дэмакратычнай партыі Расіі сп. Румянцаў. Ён сказаў, што ў свядомасці грамадзян дэмакратыя і *разбуральны імпульс — сінонімы.* Неабходны свабодныя патокі інфармацыі, працы, інвестыцый. Але затым сп. Румянцаў таксама перайшоў на знаёмы павучальны тон. «Кравчук и Ельцин не указка для нас. Наша задача корректировать их позиции... Украина независима, а Россия не провозглашала независимости». І далей ён сказаў аб небяспецы нацыяналізму, які ўзмацняе пазіцыі нацыянал-бальшавізму. На маю думку, такія паралелі праводзяцца спецыяльна, з мэтаю дыскрэдытацыі нацыянальных рухаў.

У гэтым адрэпіціраваным хоры расійскіх і некаторых украінскіх дэмакратаў дысанансам прагучала прамова дэлегата ад Дэмакратычнай партыі Украіны, які адзначыў, што для яе доўгатэрміновыя саюзы проціпаказаны, яна павінна прайсці шлях поўнай незалежнасці. Асабліва небяспечным для Украіны, на яго думку, з'яўляецца саюз з Расіяй.

Вынікам працы Кансультацыйнага савета з'явіліся некалькі зваротаў і заяў. У першай заяве гаворыцца аб тым, што роспуск СССР і ўтварэнне СНД наблізіла дасягненне дзвюх галоўных мэт Дэмакратычнага Кангрэса — дэмантаж імперскіх унітарных структур і стварэнне суверэнных дэмакратычных дзяржаў. У Заяве гаворыцца, што неабходна пераўтварыць Узброеныя Сілы былога СССР ва ўзброеныя сілы кожнай з дзяржаў, якія ўтварылі садружнасць, і Аб'яднаныя стратэгічныя ўзброеныя сілы Садружнасці. Далей гаворыцца, што сяброўскія адносіны паміж Украінай і Расіяй з'яўляюцца стабілізуючым фактарам, і Дэмкангрэс заклікае ўсе дэмакратычныя сілы абараняць раўнапраўныя адносіны як паміж Украінай і Расіяй, так і паміж іншымі дзяржавамі садружнасці.

Тэкст Звароту КС Дэмкангрэса «да народа і палітычных сіл Грузіі» выклікаў вялікую дыскусію і ў канчатковым скарочаным выглядзе ўсё роўна не быў падпісаны БНФ, «Рухам» і прадстаўнікамі Арменіі. Пазіцыя наша тлумачылася не толькі сімпатыямі да апазіцыі (у звароце ДК выказваў ёй падтрымку пры ўмове правядзення дэмакратычных выбараў), а і недапушчэннем ніякай падтрымкі дыктатару Гамсахурдзія.

Прааналізаваўшы агульны ход працы Дэмкангрэса, улічваючы непрымальны для нас імперскі дух у шэрагу выступленняў расійскіх дэлегатаў, Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі вырашыла ўстрымацца ад уступлення ў ДК. Здаецца, што і Беларускі народны фронт на наступнае пасяджэнне КС Дэмкангрэса не паедзе.

**Анатоль АСТАПЕНКА.**

# Зварот

## да суайчыннікаў, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны

**Шаноўнае спадарства!**

**У Рэспубліцы Беларусь вядзецца работа над 130-томнай гісторыка-дакументальнай хронікай «Памяць» — своеасаблі*вай эмацыянальнай энцыклапе*дыяй, у якой мяркуецца адлюстраваць лёс усіх рэгіёнаў нашай Бацькаўшчыны ад глыбокай старажытнасці да сённяшніх дзён. Гэтую работу ўзначалілі рэспубліканскі і абласныя арганізацыйна-метадычныя цэнтры, у кожным раёне Беларусі створаны камісіі па зборы і сістэматызацыі матэрыялаў для кніг Памяці.**

**Бадай, упершыню ў славянскім свеце мы ажыццяўляем такое шырокамаштабнае выданне сваёй гісторыі, якая набывае асаблівы сэнс якраз цяпер, калі Беларусь абвешчана незалежнай. Час ідэалагічных догмаў, хочацца верыць, сыходзіць назаўсёды — наспела пара сказаць усю праўду пра свой народ і яго трагічны лёс. Нацыя не можа быць жыццястойкай без засведчанага і асэнсаванага мінулага.**

**Поўны і праўдзівы паказ сацыяльна-палітычнага, эканамічнага і культурнага развіцця ўсіх раёнаў Рэспублікі Беларусь вызначае канцэпцыю і структуру хронікі «Памяць». Архіўныя матэрыялы сярэднявечча, дакументы розных часоў па гісторыі і культуры, знакамітыя беларускія радаводы, нарысы пра выдатных людзей Айчыны, біяграфіі адметных дзеячаў свайго краю, фрагменты з навуковых прац і мастацкіх твораў, летапісы населеных пунктаў, асвета, рэлігія, этнаграфія і фальклор, архітэктура і мастацтва складуць змест кніг Памяці. Пры гэтым будуць улічаны ўсе новыя даследаванні і факты, што сталі вядомымі ў апошні час. Хроніка стане мемарыялам, дзе будуць ушанаваны ахвяры войнаў, незаконных рэпрэсій, канфліктаў, ды іншых бядот на беларускай зямлі.**

**Неад'емная частка шматтомнай гісторыка-дакументальнай працы — гісторыя беларускай дыяспары, лёсы людзей, што па розных прычынах апынуліся за межамі Айчыны і сваёй дзейнасцю ўзбагацілі сусветную навуку і культуру. Таму Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Францішка Скарыны, Беларускі фонд славянскага пісьменства і славянскіх культур, Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» і арганізацыйна-метадычны цэнтр Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь па выданні кніг Памяці звяртаюцца да ўсіх землякоў і прыхільнікаў беларушчыны за мяжой з вялікай просьбай: дапамажыце нам у высакароднай справе, прычыніцеся да клопату па напісанні даследаванняў, якія і з Вашай міласці могуць стаць настольнымі кнігамі ў кожнай сям'і, заняць пачэснае месца ў кожнай хаце. Верыцца, што *з Вашай дапамогай 130-том*ная гісторыка-дакументальная хроніка «Памяць» скіруе люд беларускі на шлях дабра і справядлівасці. Яна засцеражэ нас ад кары бяспамяцтвам, не дасць забыцца святой нашай беларускай мовы, гісторыі і традыцый, прымножыць нашу сілу і шчырасць, каб з адданай любоўю і пашанаю аберагаць усё адвечнае і высакароднае, што ў вяках стваралі для нас нашыя продкі.**

**Шаноўнае спадарства! Копіі гістарычных дакументаў пра Беларусь, навуковую і мемуарную літаратуру, публікацыі ўсіх часоў з эмігранцкай прэсы, фотаілюстрацыйныя матэрыялы, успаміны аб жыцці на Радзіме *і за яе межамі просім дасылаць* на адрас: 220617, Рэспубліка Беларусь, Мінск, ГСП, праспект Машэрава, 11, арганізацыйна-метадычны цэнтр па выданні гісторыка-дакументальных хронік «Памяць». Нам хацелася б таксама атрымаць ад Вас звесткі пра ахвяры нашых суайчыннікаў, што служылі ў саюзных войсках і загінулі барацьбе з фашызмам.**

**Дасланыя Вамі матэрыялы будуць захоўвацца спецыяльным фондам у Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Францішка Скарыны. Пра Вашу дапамогу будзе абавязкова адзначана ў кнігах Памяці.**

**Шчыра ўдзячныя Вам загадзя.**

**Адам МАЛЬДЗІС, прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны;**
**Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ, старшыня Беларускага фонду славянскага пісьменства і славянскіх культур, кіраўнік арганізацыйна-метадычнага цэнтра па выданні гісторыка-дакументальных хронік «Памяць» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**Яўген ЛЕЦКА, старшыня Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».**

**АДРАДЖЭННЕ**

# У Старых Дарогах — па... старому

Нічога новага ў абліччы плошчы перад будынкам Дома Саветаў у Старых Дарогах пасля вядомых жнівеньскіх падзей не з'явілася. Па-ранейшаму з гранітнага пастамента Ільіч працягвае руку ў бок апусцелых кабінетаў былога райкома партыі. За яго спіной, уздоўж скверыка, на мураваным прасценку здалёку кідаецца ў вочы такое знаёмае прароцтва: «Мы придем к победе коммунистического труда». Не выпісанае — выкладзенае пліткай — надоўга, значыць. Свайго роду ён — эпіграф раённай *Дошкі гонару з партрэтамі пе*радавікоў «сацыялістычнага» спаборніцтва.

Крыху ўзбоч, *на высачэзным* — у чатыры паверхі — шчыце з ярка-чырвоных рэек яшчэ адзін «запавет» райкома, *таксама выпісаны* метровымі літарамі: «Сегодня главное — поступки и дела, а не разговоры о перестройке». З год ён тут павучае *прахожых*, што кіруюцца ў Дом Саветаў па розных справах. Прайдзіце за імі па калідорах чатырох паверхаў — і нідзе не ўбачыце шыльдачкі на дзвярах, напісанай па-беларуску. Каб і захацеў хто зрабіць гэта гадоў з шэсць назад, яго абазвалі б «нацдэмаўцам» ці дзіваком.

Цяпер вецер змен у грамадстве дыхнуў і сюды. Вось і нядаўна чарговае пасяджэнне райвыканкома яго старшыня Т. Раманоўская вяла па-беларуску. Гледзячы на яе, падладжваліся — хто як умеў — і падначаленыя, загадчыкі аддзелаў і службаў. Іх папярэдзілі: пара перастаць быць іванамі без роду-племені, з сённяшняга дня ўся дакументацыя і перапіска з сельсаветамі, вышэйшым эшалонам улады будзе весціся толькі на роднай мове. Аднак баюся, што сярод чыноўніцкага люду ў аддзелах выканкома яшчэ доўга яна застанецца на становішчы беднага сваяка, будзе выклікаць незадаволенасць і кпіны ў прыхільнікаў старога курсу на суцэльнае рускамоўе. Вельмі ж доўга тут, як і ўсюды ў Беларусі, ад усяго нацыянальнага адхрышчваліся, ім грэбавалі — у школе, дзіцячых садках, на вуліцы, у сем'ях.

Зазірніце ў сельскія клубы, дамы культуры — там шыльдачкі, аб'явы пішуцца гэтак жа, як дзе-небудзь на Разаншчыне. Не лепшы прыклад у гэтых адносінах і раённы Дом культуры. Над уваходам шыльда выпісана на адной мове — рускай. І нікога гэта, як кажуць, не калыша. І кінаафішы на шчытах таксама размаўляюць з гледачом не на роднай мове.

Нагадваю пра гэта мастацкаму кіраўніку культустановы М. Гурыновічу, які часова замяняе дырэктара. Ён спярша падладжваецца да мяне, спрабуе размаўляць па-беларуску, а потым махае рукой: «Чытаць-пісаць магу свабодна, а размаўляць — прабачце, трасянка атрымліваецца». Чаму ўсе шыльды і аб'явы тут пішуцца па-руску? Ён лічыць, што трэба пачакаць, калі ўвойдзе ў эксплуатацыю новы Палац культуры, будаўніцтва яго вядзецца ўжо другі год — вось, маўляў, тады і абновім усё. Але ж кінаафішы можна пісаць па-новаму і сёння — варта толькі патрабаваць гэтага ад дырэкцыі кінапракату. Без якіх-небудзь затрат.

Мікалай Міхайлавіч спаслаўся на тое, што гэтым павінны займацца самі кінапракатчыкі. Наша хата з краю? І тут жа пахваліўся, што творчыя калектывы Дома культуры — ансамбль народных песень «Таліца», народны духавы аркестр паважліва ставяцца да беларускай мовы, у праграмах іх канцэртаў ёй адводзіцца ганаровае месца. Што ж, і то хлеб. Толькі мала яго, неабходна актыўней паварочваць тварам да беларускай мовы школу, дашкольныя ўстановы. Першыя крокі ў гэтым кірунку зроблены. Пераведзена на выкладанне ўсіх прадметаў па-беларуску ў ліку іншых і 2-я сярэдняя. Але вось парадокс: пры ўваходзе ў будынак дзяцей страчаюць двухмоўныя лозунгі: «Сардэчна запрашаем у краіну ведаў», ніжэй — «Добро пожаловать».

Божухна, колькі разоў даводзілася бачыць гэты не самы лепшы рускамоўны прывітальны жэст у нашых школах! Тут жа яго падмацоўваюць выпісаныя па-руску на шчытах цытаты класікаў літаратуры і педагогікі да тэмы выхавання. А можа, не варта гуляць у двухмоўе — аддаць даніну павагі адной, роднай?

Гутарыў на гэтую тэму з загадчыкам аддзела культуры райвыканкома А. Галотам. Ён, як і яго падначаленыя з Дома культуры, размаўляць свабодна па-беларуску не можа, аб чым не вельмі шкадуе. І не віна гэта яго — хутчэй бяда, як і тысяч такіх жа чыноўнікаў у раёне, вобласці, каму не так проста скінуць з сябе вярыгі непавагі да роднай мовы, узрослыя на глебе таталітарнай сістэмы. І мяне не здзівіла, калі Аляксандр Іванавіч не без гонару зазначыў у размове, што на нядаўняй нарадзе культасветработнікаў даклад зрабіў на беларускай мове. Толькі гэтага так мала сёння!

...Пакідаў гарадок надвячоркам. Ішоў па вуліцы ў бок аўтавакзала і ўсюды ў вочы кідаліся шыльды — назвы вуліц, магазінаў, атэлье, сталовых, розных кантор — усе на рускай мове. І дыспетчар на вакзале аб'яўляла адпраўленне чарговага аўтобуса на ёй жа. А мне ўспомніўся вакзал у Салігорску, дзе і расклад руху аўтобусаў, і шыльдачкі на іх даўно выпісаны па-беларуску, ды і дыспетчар аб'яўляе аб чарговым рэйсе на роднай мове. У Старых жа Дарогах — усё па-старому.

Аб тым, як далёка тут зайшоў працэс вынішчэння нацыянальнай свядомасці, прывіцця людзям непавагі да роднага слова, сведчаць і вынікі падпіскі на газеты і часопісы. Як і раней, найбольшым попытам карыстаюцца рускамоўныя выданні. Калі, скажам, на рэспубліканскую «Звязду» падпісалася толькі 302 чалавекі (на ўвесь раён з насельніцтвам у 27 тысяч чалавек), то на «Советскую Белоруссию» — 3061, на часопіс «Крестьянка» — 1268, на нашу «Работницу і сялянку» — 548. Такія суадносіны і па іншых выданнях.

...Праходзячы міма раённага вузла сувязі, заўважыў на фасадзе будынка выпісаны на чырвонай «шляі» лозунг па-беларуску: «Хочаш добра жыць — лепей трэба працаваць». Тут ні ўбавіць, ні прыбавіць — усё правільна. І гучаў гэты напамінак больш канкрэтна і шчыра, чым той, насупраць Дома Саветаў, з абяцаннем перамогі камуністычнай працы.

**Міхась ТЫЧЫНА.**
г. Слуцк.

**ДУМКА ЧЫТАЧА**

# ЦІ ПАСПЕЕМ ВЫЖЫЦЬ?

Справа нацыянальнага адраджэння знаходзіць усё больш шчырых прыхільнікаў. Больш галосна пачынае гучаць наша беларускае слова. Але марудпасць гэтага працэсу сведчыць, што ўзяліся мы за справу трохі не з таго боку. Свядомая інтэлігенцыя па старой звычцы, што засталася з мінулых часоў, асноўны націск робіць на прапаганду беларускай мовы, культуры, звычаяў, уяўляючы, што праз адно гэта можа быць абуджана нацыянальная свядомасць народа. Але зараз ужо можна канстатаваць, што такі падыход не адпавядае патрэбам, а, галоўнае, магчымасцям нашага часу.

Тое, што рабіла лепшая частка беларускай інтэлігенцыі апошнія 70 год,—гэта неацэнны ўклад у беларускі рух, у справу нацыянальнага адраджэння, бо дзякуючы яе высілкам быў пранесены праз часы фізічнай і духоўнай акупацыі агеньчык пачуцця нацыянальнай годнасці беларуса, таго беларускага духу, без якога ніякае адраджэнне немагчыма ўвогуле. Пакланіўшыся гэтым людзям за іх самаахвярную працу ва ўмовах забароны на самастойную думку, ва ўмовах палітычнага і юрыдычнага ганення на ўсіх шчырых людзей, спытаемся ў сябе, чаму да гэтага часу нацыянальны рух не стаў рухам народным?

Здаецца, памылка ў тым, што і ў новых спрыяльных для плённай працы на ніве адраджэння ўмовах мы прытрымліваемся старых метадаў. Мы ўпарта звяртаемся да насельніцтва рэспублікі, прапануючы вывучаць беларускую мову — бо яна родная, а насельніцтва ніяк не ўцяміць, навошта гэта патрэбна? Здаецца, і па-руску і на «дземянцееўцы» ўсё зразумела. Да таго ж, і кілбасы болей не становіцца. А мы да яго зноў з дакорамі, маўляў, нашыя продкі на ёй размаўлялі, на ёй і літаратура выдатная ёсць, і наогул перад суседзямі сорамна. А насельніцтва на гэта маўчыць, а дзетак у рускую школку цягне. Дадаць, што і Закон аб мовах паўсюдна ігнаруецца, або выконваецца дрэнна. Хоць у апошнім выпадку адпаведную ролю адыгрывае пэўнае кола людзей, свядома займаючых антыбеларускую, асіміляцыйную пазіцыю, але ж займаючых яе з маўклівай згоды беларускага народа! Часам здаецца, што гэта непераадольны тупік, бо навязваць родную мову гвалтам — нонсенс.

З гэтага трэба зрабіць вывад, што абраны шлях у сучасных варунках — заганны. Ён быў плённы ва ўмовах, калі трэба было захаваць у асіміляваным народзе хоць некалькі соцень прыхільнікаў беларускай мовы і культуры. Зараз жа, калі патрэбна абудзіць свядомасць усяго народа, трэба шукаць іншыя падыходы і іншыя шляхі.

Перш за ўсё трэба прызнаць, што да роднай мовы народ **не можа** ставіцца з пагардай. Калі ж гэта адбываецца, то або мова сапраўды чужая, або сам народ пазбаўлены нацыянальнай свядомасці і ўнутрана атаясамлівае сябе з іншым народам, для якога гэтая мова чужая на самай справе. У першым выпадку, каб прымусіць народ размаўляць на чужой мове, патрэбны акупацыя, вынішчэнне інтэлігенцыі, забарона роднай мовы і яшчэ некалькі стагоддзяў паслядоўнай асіміляцыйнай працы. Характэрны прыклад — акупацыя беларусаў расійскай дзяржавай у XVIII стагоддзі і ўсе яе наступствы. Расія ў свой час яскрава даказала, што беларусаў пры пэўных умовах можна прымусіць размаўляць па-чужынску. Але яна ж паказала і тое, што размаўляць па-чужынску нашыя продкі пачалі толькі тады, калі адвучыліся **думаць** па-беларуску і пачалі атаясамляць сябе з расейцамі. Тады расійская дзяржава і здолела сабраць першы ўраджай беларускіх чарапоў на сваю карысць. (Маю на ўвазе вайну 1812 года, калі невядомая ўжо зараз колькасць беларусаў паклала свае галовы за чужыя нацыянальныя інтарэсы).

Як бы там ні было, але цяпер мы маем справу з **выхаваным** за дзвесце год нацыянальным нігілізмам большай часткі насельніцтва рэспублікі. Вялікая колькасць беларусаў у падсвядомасці атаясамлівае сябе з расейцамі і таму пазбаўлена магчымасці бачыць свае **ўласныя** нацыянальныя інтарэсы. Гэтаму спрые тое, што і зараз практычна ўсе сродкі масавай інфармацыі і адукацыйныя ўстановы ўпарта прыцягваюць старую асімілятарскую працу і сэнс яе ў тым, каб навязваць беларусам расейскі погляд на тое, што было раней, ёсць зараз і будзе потым. Трэба, нарэшце, усвядоміць, што ў беларусаў няма ніводнай сапраўды беларускай, сапраўды нацыянальнай газеты, якая б мела наклад болей за 10—20 тысяч асобнікаў. Затое ў іх ёсць у горшым выпадку «7 дней» з «товарищем Гуковским», а ў «лепшым» — «Народная газета» са спадаром Майсенем. У беларусаў **няма** нацыянальнай школы, затое ёсць тыя школы, у якія ходзяць нашы дзеці. Вазьміце і паглядзіце падручнікі свайго сына ці ўнука і пераканаецеся, што, акрамя камуністычнай прапаганды, іх прамое прызначэнне — выхоўваць манкуртаў.

У гэтых варунках не варта асабліва спадзявацца на тое, што беларусы расчуляцца ад прыгожых заклікаў і пачнуць шанаваць родную мову, культуру, усвядомяць уласныя нацыянальныя інтарэсы. З тым жа поспехам можна прапанаваць французам вывучаць беларускую мову. Глядзіш, праз два-тры гады з'явіцца некалькі соцень заўзятых прыхільнікаў беларускага слова, што будуць са ззяючымі вачамі заклікаць суайчыннікаў далучыцца да скарбніц мовы Багдановіча, але астатнім французам да гэтага не будзе ніякай справы. Перш чым заклікаць беларусаў чытаць, пісаць і размаўляць па-беларуску, трэба навучыць іх па-беларуску **думаць,** беларускімі вачыма глядзець на свет. Яшчэ лепш гэта рабіць адначасова.

З той хвіліны, калі чалавека апаноўвае нацыянальнае пачуццё, калі ён упершыню адчувае сябе беларусам, ён ужо не можа болей з пагардай ставіцца да роднай мовы, культуры, памяці продкаў, а самае галоўнае — да ўласных нацыянальных інтарэсаў. Абудзіўшы свядомасць народа, мы наогул пазбавімся абразлівай патрэбнасці пераконваць некага ў **неабходнасці** адкрыцця беларускіх школ, шанавання ўласнай культуры, дасягнення сапраўднай незалежнасці, стварэння нацыянальнага войска, правядзення самастойнай знешняй палітыкі і ўсяго таго, што не выклікае сумнення ў народаў, не страціўшых інстынкту самазахавання.

Перш чым вызначыць сродкі, якія дазволяць абудзіць нацыянальную самасвядомасць беларусаў, трэба адказаць на традыцыйнае пытанне: навошта гэта рабіць? Гэтае пытанне цікаўнае і надта ўжо практычнаму, рацыянальнаму і прагматычнаму беларусу, які і пальцам не паварухне без уласнай карысці. Такія заяўляюць, што нацыянальная палітыка павінна быць выключна прагматычнай і таму трэба абавязкова лезці ў палітычны і эканамічны саюз, адмаўляцца ад уласнага войска, уласных грошай, культуры, мовы, а калі ісці да канца, то і нацыянальнасці. Маўляў, навошта той клопат? Хай сабе расійцы турбуюцца пра наш дабрабыт, ахову, культуру.

Нацыянальная палітыка сапраўды павінна быць вельмі прагматычнай, але рабіць яе не могуць манкурты, паглядаючыя на беларускае жыццё з маскоўскай званіцы, а толькі свядомыя беларусы, кіруючыся выключна нацыянальнымі інтарэсамі нашага народа. Працаўнікі самастойнасці Беларусі чамусьці не адмаўляюць у незалежнасці Расіі. У іх не ўзнікае пытання: навошта Расіі 5-мільённае войска, ядзерная зброя, уласная культура, мова, дзяржава, нарэшце, навошта глядзець на свет расійскімі вачамі. Атрымліваецца, што тое, што для ўсяго свету добра, для Беларусі — заганна.

Цяжка гаварыць, але такіх «прагматыкаў» у шматпакутнай нашай краіне мільён, і ў Вярхоўным Савеце за імі большасць, і яны спрабуюць вызначаць лёс народа адпаведна з мэтамі і інтарэсамі Вялікай Расіі. А можа, прыспеў ужо час сказаць: «Годзе, спадары! Вам патрэбна Вялікая Расія, а нам патрэбна незалежная, квітнеючая Беларусь!»?

Гэта трэба сказаць абавязкова і неадкладна, бо занадта ўжо вялікая цана ў нацыянальнага нігілізму.

Прыгадайце, на пачатку стагоддзя па Еўропе блукаў, пакуль не знайшоў сабе прытулак у Расіі, вядомы прывід. Але што прывабіла расійцаў у марксізме, на што спакусіліся? На ідэю сусветнай рэвалюцыі? Відаць, так. Вельмі ўжо карцела захапіць увесь Свет (што тая шостая частка), бо ідэя сусветнага панавання — аснова менталітэту ўсякага імперскага народа. Беларусам жа гэтая ідэя — што сабаку пятая лапа. Але заплаціць за няздольнасць самастойна вызначыць свой лёс (як Фінляндыя, Прыбалтыка, Польшча) давялося не кілбасой, а мільёнамі жыццяў як пад час грамадзянскай вайны, так і ў часы няспынных рэпрэсій 20—30 гадоў. Не кажучы ўжо пра ганебны падзел народа. Але што хадзіць далёка па прыклады. Яшчэ не загаіліся раны апошняй вайны, у якой Беларусь страціла ад чвэрткі да трэці насельніцтва і частку зямель. А за што наш народ прынёс гэтыя страшэнныя ахвяры? Атрымаў незалежнасць? Не. Забяспечыў уласны дабрабыт? Не. Росквіт нашчадкам? Не. А за што тады? Такога пытання не пазбегнуць.

Калі толькі ўявіць сабе, што і малой часткі ахвяр, прынесеных нашым народам на карысць чужынскім інтарэсам, хапіла б на заваёву незалежнасці, на тое, каб забяспечыць сваім нашчадкам бяспечнае жыццё, спрыяльныя ўмовы для развіцця культуры і эканомікі, то становіцца зразумела, **чаго** каштуе нам нацыянальны нігілізм. Нават «прагматыкам», магчыма, дойдзе, што ў рэшце рэшт і колькасць кілбасы ў краме мае непасрэдную сувязь з узроўнем нацыянальнай самасвядомасці пакупнікоў.

...Асноўнае пытанне зараз у тым, ці здолее Беларусь хоць у апошнюю хвіліну прачнуцца, устаць з каленяў і абраць свой лёс самастойна, або зноўку пакорліва аддасць на згубу сваіх сыноў і дачок. Калі паўторыцца апошні варыянт, не будзе нам даравання за тое, што марудзілі, саромеліся нечага, не прыклалі ўсіх сіл, каб абудзіць народ, не выканалі адвечнае прызначэнне нацыянальнай інтэлігенцыі.

Найбольшы ўплыў на ўздым нацыянальнай свядомасці аказваюць палітычныя падзеі ў рэспубліцы і ў нашых бліжэйшых суседзяў. У гэтым сэнсе каштоўнасць мае кожны самастойны ўнутры- і знешнепалітычны крок нашай дзяржавы, бо ён падсвядома вымушае насельніцтва паглядаць на падзеі не збоку, а знутры. Але якраз тут зараз магчымасці адраджэнцаў скаваны, і каб зрушыць справу, патрэбна зрабіць дадатковыя высілкі. Па-першае, неабходна тэрмінова стварыць масавую, **бясплатную,** сапраўды нацыянальную па змесце газету з накладам 500—600 тысяч асобнікаў. Прычым можна і ў двухмоўным варыянце. Зрабіць яе магчыма на базе адной з рэспубліканскіх газет, скарыстаўшы дадатковыя паліграфічныя магутнасці са згоды рэдакцыі і распараджэннем Саўміна рэспублікі ці пастановай Вярхоўнага Савета. Газета павінна выдавацца і дастаўляцца ў кожную сям'ю за кошт дзяржавы. Па-другое, ператварыць «азіяцкую» службу БТ у нацыянальны канал. Па-трэцяе, найбольш вядомым дзеячам нацыянальнай культуры неабходна звярнуцца (і не аднаго разу) да нашага знявечанага камуністычнай ідэалогіяй настаўніцтва з заклікам, з просьбаю, са спадзяванкай, што яно больш не будзе апантана выхоўваць маленькіх ворагаў роднага краю, крыху стрымае жудасны канвеер і, не лічачыся з недахопам новых падручнікаў, методык і распрацовак, паступова зоймецца нацыянальным выхаваннем людзей. Каб звароты не зніклі ў паветры, Міністэрства адукацыі павінна падмацаваць іх адпаведнымі распараджэннямі і загадамі. Па-чацвёртае, кожны свядомы беларус павінен у адпаведнасці са сваімі здольнасцямі весці актыўную прапаганду беларускага пункту погляду. Пры любой магчымасці выкарыстоўваць сродкі масавай інфармацыі, памятаючы, што зараз найперш важна не тое, на якой мове ты гаворыш, а **што** гаворыш.

Усім народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь, якія не лічаць сябе «акупантамі», трэба павярнуцца да нацыянальных інтарэсаў беларусаў, прыгадаць, што лёс народа ў пэўным сэнсе ў іх руках. Аб'яднанымі сіламі паспрыяць хутчэйшаму выхаду ў свет беларускай нацыянальнай газеты, стварэнню нацыянальнага канала на ТБ, дапамагчы ўзяць пад кантроль дзейнасць адукацыйных устаноў рэспублікі. Без гэтага нават датэрміновае пераабранне Вярхоўнага Савета не дасць карысці.

І апошняе. Праводзячы палітыку нацыянальнага адраджэння, трэба далучаць да яе прадстаўнікоў усіх нацый і народаў, што жывуць разам з намі, бо яны таксама жыхары Беларусі і аб'ектыўна зацікаўлены ў стабільнасці і росквіце нашай агульнай краіны. Абуджэнне нацыянальнай свядомасці беларусаў не павінна палохаць рускіх, украінцаў, яўрэяў, татар, бо захаваць ім роўныя правы і культурную аўтаномію — у нацыянальных інтарэсах беларусаў.

На вялікі жаль, часу, каб паступова вырашаць узнятыя пытанні, ужо няма. Жыццё можа выставіць свой жорсткі рахунак народу ў любую хвіліну. Трэба паспець стварыць крытычную масу грамадскай думкі, закрануць розум і душу кожнага беларуса, каб у час выпрабаванняў мы здолелі ўрэшце ўсвядоміць свае ўласныя нацыянальныя інтарэсы і пазбегнуць знішчэння.

**Уладзімір СТАРЧАНКА.**
г. Гомель.

Ганарар прашу перавесці на рахунак Беларускага згуртавання вайскоўцаў.

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

## Што гэта за «эрбэ»?

**Апошнім часам нават у «ЛіМе» (не кажучы пра іншыя выданні) выкарыстоўваецца абрэвіятура РБ у сэнсе Рэспубліка Беларусь. Што гэта за «эрбэ»? Як вядома, Вярхоўны Савет, зацвярджаючы назву Рэспубліка Беларусь, спецыяльна агаварыў скарочаны варыянт назвы — Беларусь. Відаць, зроблена гэта не проста так. Абрэвіятуры могуць яшчэ ўспрымацца, калі яны, у нейкім сэнсе, унікальныя, напрыклад, ФРГ. ЗША, тая ж БССР. А гэтае РБ? І рэспубліка Балгарыя — РБ, і служба радыяцыйнай бяспекі ў нашым інстытуце — РБ, і рэле бланіроўкі ў аўтамабілі — РБ, і яшчэ многае іншае мае абазначэнне РБ.**

**Гэтая «эрбэзацыя» распаўзаецца ўсё шырэй па ўсіх газетах, пакідаючы прыкры асадак у душы беларуса. Думаю, што скарочаная назва — Беларусь гучыць і прыгожа, і зразумела, і законна.**

**Міраслаў СІДАРОВІЧ,**
**лекар Рэспубліканскага інстытута анкалогіі.**
пас. Бараўляны.

## Па-ранейшаму называецца...

**У публікацыі «Смаленскія сцежкі «Выбранецкіх шыхтоў» (№ 43 за мінулы год) шаноўны аўтар прыгадвае, што мястэчка Любавічы вядомае яўрэям усяго свету. У сувязі з гэтым удакладню, чым канкрэтна вядомыя Любавічы.**

**Да 1917 года мястэчка ўваходзіла ў склад Магілёўскай губерні і т. зв. мяжы аседласці. Паводле дадзеных 1897 г. у паселішчы жыло 1660 яўрэяў, альбо 67,3% ад усяго насельніцтва. З прыездам у 1813 г. у Любавічы Дова Бера Шнэерсона, вучня славутага Ісраэля Бааль-Шэм-Това, заснавальніка хасідызму, мястэчка становіцца цэнтрам духоўнага і рэлігійнага жыцця ўсходнееўрапейскага яўрэйства. Разам са сваім вучнем рабі Шнэурам-Залманам з м. Ляды рабі Шнэерсон дае пачатак хасідскаму руху хабад, які здабыў да гэтага часу вялікі ўплыў ва ўсім яўрэйскім свеце. Менавіта тады за прадстаўнікамі гэтага руху замацавалася найменне «любавіцкіх хасідаў». У наш час хабад мае цэнтр і вышэйшую духоўную навучальную ўстанову ў Брукліне. Кіраўнік руху па-ранейшаму называецца Любавіцкім рэбе.**

**Алесь БОБРЫК.**
г. Бабруйск.

## Былі розныя партызаны

**Артыкул С. Украінкі «Соль на загоеных ранах», надрукаваны ў 50-м нумары «ЛіМа» за мінулы год, вельмі ўсхваляваў мяне. Нарэшце лёд крануўся. Гэты чалавек напісаў праўду. Мы шмат наслухаліся пра партызанскае геройства. Але былі розныя партызаны. Людзі майго веку ведаюць і іншую праўду пра партызанаў: як «ваявалі», як калашмацілі насельніцтва, як палілі хаты ў вёсках. Але ніхто не адважваецца напісаць праўду, у тым ліку і я, бо няма афіцыйных доказаў (маю на ўвазе даты, колькасць учынкаў і ахвяр і г. д.).**

**Мне 62 гады. Нарадзілася я ў вёсцы Навасёлкі за 2 кіламетры ад Мядзела. Не ведаю як дзе, а мы нацярпеліся і ад партызанаў.**

**Назва нашай вёскі, дарэчы, знікла, бо вёску прылучылі да Мядзела, а вуліцы далі назву Алега Бычка, мусіць, ён быў партызанам, але ніякага дачынення да нашай вёскі не меў. Няхай бы вуліцу назвалі Навасельская. Дзе гэта знайсці аднадумцаў, каб хто дапамог?**

**Прабачце за такі няўцямны ліст, але я мусіла вам «паспавядацца».**

**Ірына МІСУНА.**
г. Маладзечна.

ЧАС І МЫ

# «БРЭЙК-ДАЎН» па-беларуску?

**Спартак ПОЛЬСКІ,**
доктар геаграфічных навук, прафесар

Адносіны любога народа да свайго мінулага з'яўляюцца важным элементам нацыянальнага самавызначэння. На Беларусі з-за яе складанага гісторыка-дзяржаўнага мінулага — гэта асабліва важна. Сучасным пакаленням, і перш за ўсё моладзі, трэба ведаць пра тое, у якой барацьбе, у якіх пакутах ішла Беларусь да сваёй незалежнасці. Нам трэба сёння аб'ектыўная, праўдзівая інфармацыя пра беларускі народ, без усялякіх прабелаў і замоўчванняў. Толькі такі падыход дазваляе атрымліваць урокі з гісторыі. Гэта мае вялікае значэнне для культурнай цэласнасці грамадства, яго дэмакратызацыі. Нарэшце, гэта немалаважна і для нашых сённяшніх узаемаадносін з суседзямі. Акрамя ўсяго іншага, неабходна ўмець правільна ацэньваць долю мінулага, якую варта захаваць для цяперашняга, і выяўляць долю цяперашняга, якую неабходна завяшчаць будучаму. Нехта з вялікіх сказаў: «Калі мы гаворым пра мінулае — мы здымаем капялюш, калі мы гаворым пра цяперашняе — мы закасваем рукавы».

Мала знойдзецца народаў, якія б зведвалі такія вялікія страты ад асіміляцыйных працэсаў, як беларускі. Згадаем мэтанакіраваную палітыку царызму, які ігнараваў нацыянальныя інтарэсы, памкненні беларусаў, не лічыў іх самастойнай нацыяй (адсюль і ўкаранёная ў рускай імперыі назва іх спрадвечнага рассялення — Паўночна-заходні край). Не былі спынены нацыянальны, культурны і моўны прыгнёт беларусаў і ў гады савецкай улады. Гэта прывяло да фарміравання ў значнай колькасці беларусаў расхістанай або раздвоенай нацыянальнай самасвядомасці, калі, напрыклад, такія паняцці, як «нацыянальнасць» і «родная мова», не супадаюць. Так, напрыклад, паводле перапісу 1989 г. нават на Беларусі 19,8 працэнта беларусаў, г. зн. кожны пяты, назвалі роднай мовай не сваю, а іншай нацыянальнасці.

Доля насельніцтва, якое лічыць роднай мову сваёй нацыянальнасці, у беларусаў нашмат больш нізкая, чым у іншых карэнных народаў саюзных рэспублік былога СССР (гл. табліцу).

| Нацыянальнасці | Працэнт асоб, якія лічаць роднай мову сваёй нацыянальнасці | | |
|---|---|---|---|
| | 1959 г. | 1989 г. | Рост (+), скарачэнне (—) працэнт. |
| Рускія | 99,8 | 99,8 | 0 |
| Беларусы | 84,2 | 70,9 | —13,3 |
| Украінцы | 87,7 | 81,1 | —6,0 |
| Узбекі | 98,4 | 98,3 | —0,1 |
| Казахі | 98,4 | 97,0 | —1,4 |
| Азербайджанцы | 97,6 | 97,7 | +0,1 |
| Армяне | 89,9 | 91,7 | +1,8 |
| Таджыкі | 98,1 | 97,7 | —0,4 |
| Грузіны | 98,6 | 98,2 | —0,4 |
| Малдаване | 95,2 | 91,6 | —3,6 |
| Літоўцы | 97,8 | 97,7 | —0,1 |
| Туркмены | 98,9 | 98,5 | —0,4 |
| Кіргізы | 98,7 | 97,8 | —0,9 |
| Латышы | 95,1 | 94,8 | —0,3 |
| Эстонцы | 95,2 | 95,4 | +0,2 |

Звяртае на сябе ўвагу і іншы, не менш сумны факт. Сярод беларусаў назіраюцца і самыя высокія тэмпы скарачэння долі людзей, якія лічаць роднай мовай мову сваёй нацыянальнасці. Па-за сваёй рэспублікай яны параўнаўча лёгка пераходзяць на іншую, у першую чаргу, рускую мову. Дарэчы, яшчэ ў 1926 г. сярод народаў саюзных рэспублік працэнт людзей з роднай мовай сваёй нацыянальнасці быў самы нізкі ў беларусаў (і армян).

Вядома, тэмпы гэтых працэсаў, іх архітэктоніка, маштабы досыць разнастайныя ў розных рэгіёнах краіны. Калі ж мы возьмем для разгляду беларусаў, якія жывуць за межамі рэспублікі, то там лічаць роднай мову сваёй нацыянальнасці ў сярэднім толькі 30—40 працэнтаў з іх. Людзі ж, якія змянілі мову, у далейшым, як правіла, мяняюць і сваю нацыянальную прыналежнасць.

Табліца, што прыводзіцца ніжэй, паказвае, якая доля беларусаў у 1989 годзе па-за межамі Беларусі назвала беларускую мову сваёй роднай мовай.

| | Колькасць беларусаў, тыс. чал. | З іх лічаць беларускую мову роднай мовай | |
|---|---|---|---|
| | | тыс. чал. | працэнт |
| Украінская ССР | 440,0 | 156,2 | 35,5 |
| Літоўская ССР | 63,2 | 25,6 | 40,5 |
| Латвійская ССР | 119,7 | 38,5 | 32,2 |
| Карэльская АССР | 55,5 | 16,3 | 29,4 |
| Прыморскі край | 22,0 | 6,0 | 28,3 |
| Амурская вобласць | 18,0 | 6,4 | 35,5 |
| Архангельская вобл. | 19,9 | 7,6 | 38,2 |
| Бранская вобл. | 11,3 | 4,9 | 43,4 |
| Калінінградская вобл. | 73,9 | 24,8 | 33,6 |
| Ленінградская вобл. | 33,7 | 12,3 | 36,4 |
| Маскоўская вобл. | 56,5 | 20,3 | 35,9 |
| Мурманская вобл. | 38,8 | 14,3 | 36,9 |
| Пскоўская вобл. | 12,5 | 6,0 | 48,0 |
| Смаленская вобл. | 22,4 | 10,7 | 47,8 |

Адзін з вядучых савецкіх этнографаў В. Казлоў так вызначае ролю роднай мовы: «Трэба ўказаць на важнасць мовы як прыкмету этнічнай супольнасці, як умовы яе існавання і нармальнага развіцця і на звязанае з гэтым вялікае значэнне мовы як этнічнага вызначальніка. Адсюль ясна, што супадзенне адказу аб нацыянальнасці з адказам на пытанне аб роднай мове сведчыць пра этнічную ўстойлівасць народа. Само па сабе пытанне пра родную мову амаль непазбежна суадносіцца з натуральна ўстаноўленымі ад нараджэння ці з ранняга дзяцінства этнамоўнымі сувязямі, міжволі асацыіруецца з пытаннем пра нацыянальную прыналежнасць. Таму прызнанне сваёй роднай мовай мовы іншай нацыянальнасці сведчыць, як правіла, аб тым, што апытваемы страціў сваю нацыянальную мову або ведае яе настолькі слаба, што ўжо не звязвае з ёй сваю нацыянальную прыналежнасць». Такім чынам, для беларускага этнасу ў дадзеным выпадку асіміляцыя носіць ярка выяўленую этнаграфічную накіраванасць, г. зн. такую, якая вядзе ў далейшым да змены сваёй этнічнай прыналежнасці.

Але я не абвінавачваў бы катэгарычна тых беларусаў, якія, жывучы ў іншамоўным асяроддзі ў іншых рэгіёнах і працуючы ў інтэрнацыянальных калектывах, забылі родную мову. У гэтым хутчэй вінавата сталінская палітыка «зліцця народаў» і брэжнеўская ўстаноўка на гегемонію рускай мовы. Тым не менш, нельга не адзначыць у беларусаў, як і ў некаторых іншых этнасаў, і слабасць антыасіміляцыйных сіл.

Пытанне гэтае вельмі складанае і вымагае глыбокіх сумесных даследаванняў псіхолагаў, філосафаў, этнографаў, сацыёлагаў, прадстаўнікоў іншых навук. Але дзве прычыны ляжаць на паверхні.

Не варта, па-першае, забывацца на тое, што Беларусь з усходу і захаду размешчана паміж двума больш буйнымі этнасамі — рускім і польскім, што вызначала раней і вызначае дагэтуль няўстойлівасць этнічнай самасвядомасці ў значнай часткі беларускага насельніцтва, асабліва ў этнакантактных зонах і буйных гарадах.

Па-другое, мае месца значная «русіфікацыя» беларускага насельніцтва, у выніку чаго, як ужо гаварылася, усё большая колькасць беларусаў называюць сваёй роднай мовай менавіта рускую мову. Так, паводле матэрыялаў перапісу насельніцтва, з агульнай колькасці беларускага насельніцтва ў БССР назвалі беларускую мову сваёй роднай мовай у 1959 г.— 93,2 працэнта беларусаў, а ў 1989 г.— ужо толькі 80,2 працэнта.

У якасці яшчэ аднаго канала асіміляцыйных працэсаў выступаюць міжэтнічныя шлюбы. Пра што ж сведчыць шлюбная статыстыка? Пра тое, што дзеці ад гэтых шлюбаў часта выбіраюць этнічную прыналежнасць аднаго з бацькоў, перарываючы тым самым этнічную лінію другога.

Тут неабходна мець на ўвазе і тую акалічнасць, што пры правядзенні перапісаў насельніцтва ў былым Савецкім Саюзе нацыянальнасць і родная мова запісваліся са слоў чалавека, што можна лічыць праявай яго самасвядомасці.

У сувязі з закранутым пытаннем трэба нагадаць, што ўведзеная ў краіне ў пачатку 30-х гадоў пашпартная сістэма патрабуе дакладна вызначанай фіксацыі нацыянальнай прыналежнасці. На сесіі Вярхоўнага Савета СССР вясной 1991 г. слухалася пытанне аб выключэнні з пашпарта грамадзян Савецкага Саюза пункта «нацыянальнасць». Прыхільнікі адмены гэтага пункта ў пашпарце заяўлялі, што, па-першае, у царскай Расіі ў пашпартах не было пункта аб нацыянальнасці, і, па-другое, што ніводны міжнародны дакумент не падкрэслівае нацыянальных адрозненняў — толькі правы грамадзянскія, правы чалавека. Аднак рашэнне гэтага пытання на сесіі не было прынята і яно было перададзена на абмеркаванне ў Вярхоўныя Саветы рэспублік. Спашлюся зноў на думку В. Казлова, які піша наступнае:

«Варта падкрэсліць, што этнічная, або нацыянальная, прыналежнасць у адрозненне ад полу ці ўзросту — гэта не біялагічная, а сацыяльная катэгорыя; яна не вызначаецца нараджэннем, а фарміруецца ў ходзе сацыялагізацыі асобы, яе сацыяльнай арыентацыі, у дадзеным выпадку — свядомага этнічнага самавызначэння. У адрозненне ад біялагічна вызначаных і не залежачых ужо ад чалавека параметраў, напрыклад, ад яго антрапалагічнай характарыстыкі ці расавай прыналежнасці, якая сапраўды заўсёды перадаецца ад бацькоў да дзяцей (хоць у расавазмешаных папуляцыях і яе выяўленне абцяжарана), этнічная прыналежнасць (ці нацыянальная самаарыентацыя) можа змяніцца на працягу жыцця чалавека».

Аўтары надрукаванага летась у «ЛіМе» артыкула «Аб'ектыўна пра мяжу» Р. Гарэцкі, Я. Шыраеў і Л. Крывіцкі выступаюць супраць вызначэння нацыянальнасці чалавека на падставе яго самавызначэння, лічачы, што вызначаць нацыянальнасць трэба, так бы мовіць, «па крыві». Але вызначэнне нацыянальнасці «па крыві» — гэта, даруйце, расізм.

Пытанне пра нацыянальнасць было ўпершыню ўведзена ў айчынныя перапісы ў савецкі перыяд (1920, 1926 гг.). Хоць фармуліроўкі пытання ад перапісу да перапісу ўдасканальваліся, аднак ва ўсіх перапісах нацыянальная (этнічная) прыналежнасць фіксіравалася, зыходзячы з самасвядомасці індывіда.

Куды мы, напрыклад, аднясём знакамітага венгерскага паэта Шандара Пецёфі — серба па бацьку і славака па маці, які лічыў сябе венграм? Такія прыклады можна прыводзіць бясконца.

Як сведчаць матэрыялы перапісаў насельніцтва 1979 г., беларусамі ў Беларусі назвалі сябе 79,4 працэнта насельніцтва, у 1989 г.— 77,9 %. Усё гэта звязана з тым, што працэсам нацыянальнай самасвядомасці характэрна пэўнае адставанне ў часе. Натуральна, што гэта характэрна і для беларусаў. Такім чынам, не адразу выявіцца павелічэнне долі насельніцтва, якое лічыць сябе беларускім.

Нацыянальны характар — гэта не выдумка, а рэальнасць, з якой трэба лічыцца, але якой нялёгка даць дакладнае вызначэнне. Цяжка даць псіхалагічную характарыстыку асобна ўзятаму чалавеку, а цэламу народу? Чым тут кіравацца? Праяўленнем яго сацыяльных пачуццяў? Стойкасцю некаторых традыцый? Такімі непераходнымі каштоўнасцямі любога сучаснага грамадства, як яго розум, інтэлект, калі хочаце, талент?

Характар народа абумоўлены яго грамадскім быццём, засваеннем сацыяльнага вопыту ў канкрэтнагістарычных умовах. Разуменне «абагульненага» характару народа дазваляе са значнай доляй верагоднасці прадбачыць яго паводзіны.

У нашай рэспубліцы ніводзін з філосафаў, сацыёлагаў, культуразнаўцаў, псіхолагаў не рабіў пакуль што спробы даць навукова абгрунтаваны адказ на пытанні: што такое нацыянальны беларускі характар? Якія заканамернасці яго фарміравання? Якія этнічныя стэрэатыпы для яго характэрны і наборам якіх асноўных рысаў характарызуецца беларускі народ? Што больш для яго характэрна — энергічнасць або марудлівасць ці пасіўнасць, ураўнаважанасць або імпульсіўнасць? Што з'яўляецца вядучым, «базавым», а што «другасным» у характары беларусаў?

Канечне, усе гэтыя пытанні няпростыя. Яны вымагаюць глыбокага параўнаўчага вывучэння мовы, маралі, культуры, гісторыі, міфалогіі, сацыяльнай псіхалогіі, рэлігіі, этнічных асаблівасцей псіхафізіялогіі. Напэўна, і дэмаграфіі. Гэтыя даследаванні памаглі б таксама высветліць і тое, ці ёсць у беларусаў па-за межамі рэспублікі свая нацыянальная самабытнасць, «прыроднасць», «устойлівасць», ці яны хутка растварaюцца ў рускамоўным асяроддзі. У мяне ўвесь час круціцца ў галаве адна фраза з інтэрв'ю Святланы Алексіевіч газеце «Добры вечар» (17 ліпеня 1991 г.), дзе яна, гаворачы пра беларусаў, заўважае, што ў іх «падаўлены нацыянальны стыль, характар». У адным са сваіх інтэрв'ю Станіслаў Шушкевіч назваў Беларусь «празмерна цярплівай». Так, у сілу сваёй сузіральнай натуры, свайго шматцярпення, сваёй заспакоенасці беларускі народ пазней за многія іншыя народы стаў на шлях нацыянальнага самасцвярджэння. Але сёння ён рашуча навёрствае тое, што раней упусціў.

Будзем спадзявацца, што заваёва Беларуссю дзяржаўнай незалежнасці, нацыянальная самасвядомасць



Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

яе жыхароў паспрыяе развіццю этнапсіхалогіі, якая фарміруецца на стыку этнаграфіі і псіхалогіі і вывучае асаблівасці псіхалогіі людзей, што праяўляюцца ў так званым нацыянальным, або этнічным характары. У працэсе гэтых даследаванняў павінны быць выпрацаваны надзейныя тэсты і эксперыментальныя працэдуры, якія ўжываюцца для даследавання этнічнай супольнасці. Усё гэта павінна быць гранічна карэктна, бо неабгрунтаваныя высновы вельмі шкодныя і могуць закранаць нацыянальныя пачуцці.

Чаму я так шмат гавару пра такую ўласцівасць народа, як яго характар? Ды таму, што, як адзначае акадэмік Ю. Брамлей, з ім, «з характарам этнасу, непарыўна звязана тыповая для яго сістэма памкненняў — сукупнасць іх патрэбнасцей, інтарэсаў, каштоўнасных арыентацый, установак, перакананняў, ідэалаў» і г. д.

(Працяг на стар. 12).

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**



# НАЗОВЫ БЕЗНАЗОЎНАГА

●

Раскідваецца восень кляновымі
чырвонцамі.
...Сумна...
Нават збіваешся з рытму хады,
Дыхання, думкі...
Мабыць, замнога стронцыя
У кожнай рыжай травіне
і ў кожнай кроплі вады...
І мне Айчыну цяпер
адкрываюць, нібыта Амерыку.

І, як туземцу, вяртаюць памяць
і ўзрост жыцця...
Праверце мае пачуцці —
маю адзіную метрыку!
А ўсім, хто прыйшоў з нябыту,
расплюшчце вочы быцця.
Жыццё не бясконца, на жаль,
як алфавітныя літары.
Паспець бы выказаць сваё апошняе Я.
Хачу, каб мяне адпелі
варонінскія прасвітары.
Спадзеўка ёсць:
не адрыне мяне пад Клецкам зямля.
Не ў змесце, чытач,
а ў часе і ў месцы — ісціна.
Пачаў я з кляновых лісцяў —
і, вось, куды занясло...
«Мне хочацца ў жыта ўвайсці»,—
скажу, паўтараючы Пысіна.
Жывому баліць жывое,
а мёртвых адродзіць тло.

●

Дзесятак год, як цэлы свет
Прысуд выносіў: аднадумцы,
За Ільічоўскі запавет
Трымаюцца, бы мліва ў ступцы...
А я ў той час, і дзень і ноч,
Гібеў у месцы глухаманным,
І страх сціраў з крывавых воч,
І не чакаў ад мліва манны...
Настойваў слова на віне.
І ўсё ніяк не мог даўмецца:
Няўжо ніхто на свеце мне,
Бы рэха, ўсё ж не адгукнецца!!
Ніхто!
Ніхто...
І сёння, вось,—
Мы думку думкай крышым проста...
І на абшарах нашых скрозь —
Дэмакратычнае сіроцтва.
Зайздрошчу дрэвам і траве,
І лугу іх, і іх дубраве,
Калысцы хісткай, і труне,
І, ў стозе высахлай, атаве...
А ты, чытач, зайздросці мне,
Бо слову ўсё ж прыйшла нагода,
Настоенаму на віне
Уласнай,
а... не вінзавода...

●

Люблю вераснёўскі рупны дождж...
Акно адчыню і — слухаю,
Як чынна ідзе ён дома ўздоўж,
Нібы гаспадар пад мухаю.

А сёння дождж асаблівы. Ён
Дзіўны і нейкі загадкавы.
Змачыў дарэшты фарсісты клён,
Змыў нумар з дома парадкавы...

Лезе сляпіцай у кожны твар.
І маскі змывае з раскаю...
Адзіны сябра мой і ваяр
З канонамі пралетарскімі!

Ах, быць бы — думаю — мне дажджом.
Паплакаць хоць раз без сораму
Перад сябрамі, жонкай, дзіцём
І... перад ворагам скораным...

## Адносна месца жыхарства

Увогуле ўсё адно мне —
на якой мне вуліцы жыць.
На шумнай вуліцы Леніна
ці вуліцы Каліноўскага.
Абодва — рэвалюцыянеры.
Сэрцы — стальныя нажы...
Жыў бы раней — у апошняга
быў бы за Маякоўскага.
А лепш за ўсе на Зялёнай
нятлумнай вуліцы жыць.
І чуць ад дзяцей тутэйшых
словы продкаў нязменнымі,
І прадчуваць, як час
услед за імі бяжыць,
Пакінуўшы нас на вуліцах
з суровымі
іх найменнямі.

●

Не тое што кветкі люблю,
А, проста, бываюць выпадкі —
На думцы сябе я лаўлю.
Святлеючы ўвесь ад здагадкі:
Што самым бязрадасным днём
Яны прад вачыма ўзнікаюць —
Сядзяць у двары пад вакном,
Па-бабску табе спачуваюць...

Ах, кветкі — дзявочую страсць —
Не рваў, не куплю на базарах...
Мне радасна існасць іх знаць
І бачыць іх добрыя твары.

●

Дачцэ КСЕНІ

Як многа ведае дзіцё!..
І — жах — як многа мной забыта,
Пакуль уласнае жыццё
Я прыстасоўваў да карыта...

*Яраслаў Пархута*







# Коні мае, коні...

ЭСЭ

I

СЯДЖУ ў бальнічным дворыку, на лавачцы, пад ніцай вярбою. З адчыненага акна трэцяга паверха рвецца на волю надломлены жаночы голас:

**Ямщик, не гони лошадей.**
**Мне некуда больше спешить.**
**Мне некого больше любить.**
**Ямщик, не гони лошадей...**

Песня агортвае душу тугою. І раптам — вяртае ў мінулае. Настойліва. Неадчэпна.

**Ямщик, не гони лошадей...**

Божухна! Ну хто ж гэта там, у палаце той? І навошта так?..

Але дзе ўзяць сілы? Ды ці зможаш супраціўляцца?.. І ты ўжо там, далёка-далёка, за высокім плотам гадоў. Ты — у дзяцінстве.

II

Мы не мелі каня. Зямлі было, як гавораць, на адзін пералёт курыцы. Аднак абрабляць тыя пару гектараў супесяў трэба. І даводзілася наймаць ратая. Ён рабіў ласку, і ў аддзяку наша кузня звінела кавадлам, а я, падшыванец, як мог, дапамагаў бацьку—то назубіць серп, то зрабіць падкову, то «зварыць» абады, то выштукаваць новыя цуглі ці якую іншую драбязу для патрэб суседа, што з канём.

Калі справа тычылася нечага значнага—бацька стараўся найлепей аддзячыць за помач. З драбязою — інакш. «Рабіцьму ключыкі-замочкі, хадзіцьму вечна без сарочкі», — аднекваўся ён, але ў кузню ішоў. Бо хіба адмовіш чалавеку, які некалі выручыў цябе?

У бацькі былі свае сакрэты. Ягоныя сярпы не «пырскалі» (не ламаліся пад жменяй збажыны), не гублялі дачасна зубоў. Каса з-пад яго рук выходзіла брытвай. А брытва, зробленая са звычайнага напільніка, вытрымлівала канкурэнцыю нават вядомай тады фірмы «Золінген». Спружыны да швейных машынак, што траплялі ў нашу кузню, не «сыпаліся», паляўнічыя стрэльбы ўжо не «жывілі», а сцізорык рабіўся надзіва «яркім». Не раз я чуў: «У любую справу трэба душу ўкладваць». Праз хвіліну бацька дадаваў да сказанага: «Тут, як і ў гаспадынь. У аднае хлеб—закалец на палец, у другое—што сітны...»

III

Я завіхаўся ля горана, дапамагаючы мяхам працаваць на ўсю моц, пазіраў на агонь, што біўся жывым сонцам сярод чорнага вугалля, а думаў пра той, сітны, хеб. Дзед Іван у адрозненне ад бацькі спрадвеку займаўся бандаркай. Жыў асобна і трымаў на здзіў усім нам гнедую, невысокага расточку кабылку, і кожны кірмашовы дзень ездзіў то ў Косава, то ў Ружаны, то яшчэ куды—збываць сваё начынне. Вяртаўся абавязкова з гасцінцам—боханам пахкага сітнага хлеба. Мы, унукі, знішчалі той бохан імгненна, падпільнаваўшы дзеда пры ўездзе ў вёсачку.

Дзед моўчкі пазіраў, як распраўляліся з сітным хлебам, а тады ўсім па чарзе давяраў пакіраваць кабылкаю. Мы ехалі вуліцай гордыя і шчаслівыя.

Аднаго разу я запытаўся:

— Дзеду, а чаму не даеш нам Гнедую? Узараць поле.

— І не дам,—адказаў дзед. — Бацька твой не паслухаўся, аддзяліўся. Ну то няхай цяпер і жыве, як хоча.

— А мне дасі? У начлег.

— У начлег дам. Толькі з Колікам-Сасновікам паедзеш. Калі ўдваіх, то і мне спакайней будзе.

Колік-Сасновік мой браценік. Мянушка такая прыліпла да яго па той прычыне, што сам ён родам з няблізкай ад нашых Мілеек Сасноўкі. Ягоны бацька вечна прападаў па турмах. Цётцы Мані адной было не справіцца з дзецьмі, і яна аддала Коліка дзеду. Старэйшы за мяне на некалькі гадоў, паслухмяны і працавіты, ён пасабляў дзеду бандарыць ды ўпраўляцца па гаспадарцы. Так і жыў. А каратаць з вясковымі хлопцамі летнія ночы ля вогнішча лічылася ўзнагародай за ўсё. Мне заставалася толькі зайздросціць.

...І вось мы ў Грудах, не так і далёка ад вёсачкі, пры саменькім лесе, на дзікім сухадоле, парослым дзе асакою, дзе сіўцом, дзе сітнікам, а дзе і мяккай дзяцелінай, што вечна духмяніць мёдам. Сядзім ля вогнішча. З намі бавяць ноч яшчэ хлопцы з вёсачкі. У руках Коліка-Сасновіка старэнькая кніжка—пра Канька-Гарбунка. Браценік чытае, а ўсе мы слухаем.

Праходзіць хвілін колькі, і я—у незвычайным, чароўным, казачным свеце. Лячу ў ружовую далячынь... А вось ужо лунаю і над сухадолам, па якім паволі ходзяць і стрыгуць траву стрыножаныя коні. Лунаю над усёй сцішанай зямлёю — над Вераб'іным лесам, што пачынаецца адразу ж за Грудамі, над роднай вёсачкай, што па той бераг ціхаплыннай Мутвіцы... Аднак нечы хрыплаваты, нібы прастуджаны, голас вяртае на зямлю—да рэчаіснасці:

— Пячонікі пара выграбаць!..

Нехта хапае дрын і рассоўвае вогнішча. Нехта выхоплівае з прысаку падгарэлыя бульбіны і кідае ў шапку. Адзін Колік-Сасновік сядзіць нерухома. Нарэшце хавае за пазуху «Канька-Гарбунка» і таксама бярэцца выграбаць пячонікі.

Колькі нечаканага прыходзіць да мяне! Зусім побач фыркаюць коні. Над Вераб'іным лесам павісае поўня. Недзе драч «дзярэ анучы». Недзе перапёлка ўпрошвае класціся спаць. Недзе кугіча філін. А сціхае філін—пачынае бухікаць вадзяны бугай. На змену бугаю прыходзяць жарлянкі. Так раскрумкаліся на суседнім плёсе, што нават дзедава кабылка падняла голаў і слухае, слухае. Яна ля самага вогнішча. Падымаюся, каб пачаставаць Гнедую бульбянымі агаркамі. Бярэ з далоні губамі акуратна, не ўспешцы, і смачна пахрумствае. Раптам заўважаю ў яе вачах поўню...

IV

З тае пары я стаў душою хінуцца да коней. Здавалася: конь можа ўсё— думаць і спачуваць іншым, марыць і разважаць, быць адданым і верным. Аднаго ён не можа—сказаць пра ўсё гэта. Але, меркаваў я, надыдзе такі дзень, такая часіна, і дзедава кабылка раптам возьме і скажа мне чалавечай моваю: «Аднолькавую лямку цягнем з вамі, людзьмі. Не крыўдзіце нас, коней...»

Ляцелі дні, ішлі тыдні, цягнуліся месяцы, а Гнедая не казала нічога. Калі я падбягаў да яе і гладзіў потную шыю, усяго што рабіла—уздыхала.

А на зазімку, як зямля бралася ўкрыцца першым сняжком, прыбег у кузню Колік-Сасновік і закрычаў:

— Гнедая памірае!..

Мы кінуліся на дзедаў панадворак. Пры плоце, які падступаў да хляўца, ляжала кабылка. Чэрава было як бубен. І мо ад таго ногі здаваліся недарэчна тонкімі. Яна то падымала галаву, пазіраючы на нас, то апускала яе на ўмёрзлую зямлю. Я ступіў крок наперад, яшчэ ступіў, яшчэ, сілячыся зразумець, што з кабылкаю, і спыніўся, уражаны: з вялікага карычневага вока Гнедай адна за адной скатваліся буйныя, бытта гарошыны, слязіны.

Да таго дня я не ведаў, што коні могуць плакаць.

Пасля смерці Гнедай часцей пачаў заходзіць да нас дзед. Звычайна ён маўчаў, седзячы на лаве пры акне, але аднойчы сказаў:

— На каня б узбіцца...

Бацька не прамовіў ні слова. Маці—таксама. Відаць, яны не забыліся, як ставіўся некалі да іхняй патрэбы дзед. Аднак тыя ягоныя словы ўсё адно як пасяліліся ў нашай хаце. Яны прымушалі задумвацца і мяне. Нараджалі мару. Сеялі спадзяванні.

Надзеі пабольшала, калі бацька да тых трох гектараў супесяў прыкупіў у суседа, які ад'язджаў у Аргенціну, паўтара гектара ўрадлівых суглінкаў. Мо куплі-продажу і не было б, але той лапік зямлі якраз ляжаў за нашым узгорыстым «шнурам» і страціць яго лічылася б недаравальна. Там няблага расла картопля, радзіла жыта з аўсом—усялякая збажына. Бацька меркаваў так: нарэшце адпадзе патрэба выжыльвацца ў кузні—будзе і без таго які кавалак хлеба, трэба толькі пазычыць грошай і набыць яшчэ і каня.

А тады... Каламучу з хлопцамі-аднагодкамі вірок на Мутвіцы, выцэджваю кошыкам паласатых уюнчыкаў, а тут ідзе з лесу Колік-Сасновік. На плячах—звязка ляшчынавых тычак. (З іх дзед рабіў адмысловыя абручы на цабэркі.) Падыходзіць і сядае на беражку.

— Ты вось боўтаешся ў гразі,—кажа ён,—а бацька жарабятка табе купіў. Дэрашаватае. На лбе — зорачка. Ногі быстрыя-быстрыя. Як прыпусціць панадворкам—ажно цокаюць капыткі...

У мяне пераняло дых. А брацненік доўжыць:

— Бацька чакаў цябе, чакаў, а тады бачыць, што і да вечара не дачакаецца, і ўзяў збыў жарабятка тое. Якраз цыганы ехалі, угледзелі яго на панадворку і перакупілі. Бо швэндаешся абы-дзе!..

Кінуўшы кош і торбачку з уюнамі, са слязьмі на вачах, я напраскі, балотцам, пабег дадому, залез на печ і прарумзаў там усю ноч. А назаўтра даведаўся: з мяне пажартавалі! І гэтак бязлітасна...

V

А тут пайшлі перамены ва ўсім нашым жыцці. У верасні вёсачка нібы ажыла напачатку, нібы ачнулася. Ды праз нейкі час папаўзлі плёткі, што

**І ў сорак страшна пастарэў...**
**Не пазнаю адлюстравання**
**Свайго ў вачах сяброў.**
**Згарэў**
**Даслоўна, да самазмяркання...**

**А трохгадовы мой ваўчок,**
**Бы цень, заўжды перад вачыма.**
**З нагі на ножку — скок-паскок —**
**З пытаннем: «Тата, ты мужчына!»**

**О, што сказаць табе, дзіця!!**
**Я ўжо на многае забыўся...**
**Не зарыфмуй з жыццём быцця,**
**Каб хоць табою я адбыўся.**

●

**Ноччу ясней**
**Бачыцца дзённае.**
**Можаш у сне**
**Высветліць цёмнае.**

**...Твары людзей,**
**Позы і позіркі,**
**Цноту надзей,**
**Потныя поціскі...**

**Раптам прысніш**
**Мёртвым жывога...**
**Чуйна ляжыш**
**Сам ля самога...**
**Спіш ці не спіш!**
**Дома ці ў Бога!**

**Лепш бы не спаць,**
**Лепш бы не бачыць,**
**Лепш бы не знаць,**
**Што гэта значыць.**

Фота Аляксея МАЦЮША.

радасць дачасная, што ў нас будзе «камунія», што адбяруць зямлю, а людзей пазганяюць у казармы, карміцьмуць з аднаго катла, а спацьмем на супольных нарах покатам, усе разам — бабы, мужчыны, дзеці...

Вярнуўся з астрогу Колікаў бацька, заехаў да нас і як адсек:

— Не за тое мы вошай кармілі па турмах!..

Яму не верылі.

Неўзабаве і вайна грымнула.

Ужо апоўдні той жахлівай нядзелю ў нас з'явіліся фашысты. Прыляцелі на матацыклах, крутнуліся і паімчалі назад, у Косава. Ды назаўтра дарога, што бегла з мястэчка праз нашу вёсачку, ажно ўгіналася — па ёй ішлі цяжкія машыны, поўныя вайскоўцаў у зялёных фрэнчах, паўзлі грукатлівыя аграмадзіны, цягнучы за сабою рознай велічыні гарматы, ляскаталі гусеніцамі танкі ў чорных крыжах на бране, валакліся крытыя брызентам фуры, паходныя кухні. Цягнулі тыя кухні ды фуры нейкія незвычайныя — высокія і таўсманыя, з калматымі нагамі коні. Іржалі яны таксама неяк незвычайна — басавіта, натужна.

— Бельгійцы! — казаў бацька. — І як такую гару пракарміць?

Нарэшце той паток коней-бельгійцаў, танкаў, цягачоў, грузавікоў скончыўся, і ў вёсцы ўсталявалася падазроная, нібы наструненая, цішыня.

### VI

Адным надвячоркам на паджарым кані, з гікам і свістам куляю праляцеў вёсачку Грышка Вецер, ля канцавой хаты з нечага стрэліў і назад ужо вяртаўся без аніякае спешкі, фарсіста гарцуючы на спраўным рысаку.

— Няўжо наш акружэнец? — здзіўляўся бацька. — Ціхонем прыкідваўся, а яно вунь што!..

Пра Грышку загаварылі. Нібыта паджарага каня ён адбіў у нямецкага афіцэра. Нібыта партызана не бярэ аніякая куля. Нібыта ён можа ўляцець у які захоча гарнізон, нарабіць перапалоху ды цэлым-здаровым вярнуцца назад, у лес. І яшчэ казалі: за галаву яго кладуць немцы ажно дзесяць тысяч марак...

А ён сам? Толькі скаліў зубы, слухаючы тыя казанні.

Такі быў Грышка Вецер!

...Не забуду ніколі той дзень. Да веснічак падляцеў на сваім скакуне Грышка, гоцнуў на зямлю і ўразвалачку пайшоў на панадворак, ведучы за сабою каня.

— Абуць трэба! — стомлена сказаў ён і прысеў на парог кузні.

Бацька стаў абмацваць капыты, аглядаць падковы. А конь стрыг вушамі, раздзьмуваў храпы і не мог устаяць на месцы: ажно танцаваў перад намі. Пярэднія падковы «хлябалі», заднія так-сяк трымаліся. Ды бацька вырашыў перакаваць каня, і мы распалілі горан. Калі быў увагнаны апошні вухналь і зрабіў сваю справу рашпіль, раўняючы капыты, бацька пахваліў:

— Конь-агонь!..

— Орлік! — паправіў Вецер, і я нечакана для сябе заўважыў: Грышка на добрым падпітку. Аднак ён трымаўся, па-змоўніцку падміргнуў мне і, калі я наблізіўся, загадаў:

— Бяры Орліка і ляці на Леўчукоў хутар. Перадасі дзядзьку Жэню вось гэта.

І Вецер выняў з кішэні складзены ў некалькі столак аркушык паперы.

Што рабіць? Я пазіраў на бацьку, бацька — на мяне. А Грышка настойваў:

— Табе ж трынаццаць стукнула. Давай!..

Я ўскочыў у сядло.

Да хутара дзядзькі Жэні па дарозе і трох кіламетраў не будзе. А калі браць напрасткі, то і таго меней. І я вырашыў падацца напрасткі. Спачатку ў нас з Орлікам не клеілася. Але хутка зразумелі адзін аднаго. Падбадзёрыўшы і без таго гарачага каня пяткамі, гігікнуўшы, як гэта рабіў Грышка Вецер, я аслабіў павады, і Орлік ажно слаўся над зямлёю.

Праляталі межы, парослыя чарнабыльнікам, міналі пірамідкі ядлоўцаў на схілах пясчаных пагоркаў, праносіліся лажкамі. Вось ужо і суседнія Жамайдзякі пачалі праплываць хатамі на захад, вось ужо і лёгкі туманок пазначыўся па правую руку, ля мастка, як недзе з-пад шэрага касагора ўдарыў доўгай чаргой кулямёт. Над намі заціўкалі кулі, пацягнуліся жаўтлявыя ніткі трасірак, праціўна занылі міны, і адзін за адным — злева, справа, наперадзе — выраслі чорныя кусты ўзрываў. «Засада!» — мільганула ў галаве, і я прыпаў да конскай грывы. Орлік сам кінуўся ўбок, у лагчынку, і мы ўжо імчалі ў кірунку Марачоўшчыны. Я толькі тады зразумеў, што небяспека мінае: радзей ціўкалі кулі, радзей прашывалі неба трасіркі, а галоўнае — усё было даволі высока над намі.

Нарэшце нейкая незразумелая сіла вынесла Орліка на ускрай хмыза, і мы ўжо імчалі да хутара нізовінкаю і з процілеглага боку. Падляцелі да хаты, і я, не злазячы з каня, пастукаў у акенца. Дзядзька Жэня тут жа выскачыў на парог, замахаў рукамі, сцягнуў мяне з сядла і кінуўся з Орлікам у хлеў.

— Тваё шчасце, — сярдзіта казаў ён потым. — Лічы, з таго свету Орлік цябе вынес.

### VII

А ў тую раніцу ў нас на панадворку з'явіўся партызан з дзіўным прозвішчам — Вус. Ён прывёў за аброць Орліка. Панура кінуў:

— Прымай.

— А Вецер? — вырвалася ў мяне.

— Грышкі няма, — адказаў Вус. — За дзень да вызвалення яго прыцягнуў Орлік. У стрэмені. Смяротна параненага...

Каня таксама паранілі. Куля прайшла навылёт, вышэй лапатак, і рана цяпер сачылася гноем. Бацька дастаў недзе карболкі, прамыў рану, трэскай павыкалупваў з яе жоўтых чарвей. І пачаліся для мяне дні, поўныя новых клопатаў.

Спачатку Орліку жаў мятлік на суседніх узмежках. Пазней вадзіў яго за вёсачку, і ён ужо сам выстрыгваў траву ўздоўж дарогі. А потым і ў Груды з ім зачасціў, у начлег. Орлік папраўляўся. Я быў рады: усё ж выхадзіў! Прыбягалі суседзі, аглядалі яго ды цмокалі:

— Аднак плуга яшчэ не пацягне...

Але хамута мы нават і не прымерылі на Орліка.

У канцы жніўня з'явіўся сельсавецкі фінагент і канфіскаваў каня. Мне быццам у душу плюнулі. А калі ў вёсцы скалацілі калгас — і ў астатніх пазабіралі коней.

Жалю варта, у якіх умовах апынуліся яны. Цёплай парою яшчэ так-сяк. Ратаваў самапас. А зімою? Апроч саломы ім нічога не перападала. Ды і тая часцей за ўсё здзіралася са стрэх. Таму да вясны многія коні не вытрымлівалі, а каторыя і дажывалі, то іх ажно вадзіла ў бакі.

Бязлітасны быў час! Уявіце: вясна. Голы выган за вёскай. На ім — табунок коней. Травы не скубуць — яе там няма. Збіліся ў гурт, паклалі адзін аднаму на шыі галовы і стаяць, нібы думаюць: а што ж гэта будзе?

З коньмі хутка адбылося нешта страшнае. Іх аб'явілі ў нас нібы па-за законам. Непатрэбнымі. Лішнімі. Паколькі зямлю абрабляць меліся рознымі машынамі, то вырашылі паздаваць коней на мясакамбінат. І аднойчы зялёныя «студары» з нарошчанымі бартамі пайшлі па вуліцы ў напрамку мястэчка. А ў кузавах — коні. Па тры ў кожным. У адным грузавіку стаяў і ўшчэнт заезджаны Орлік.

У мяне быццам надарвалася нешта ўсярэдзіне. Гэтых спрадвечных працаўнікоў, кармільцаў, вояў, гэтых спадарожнікаў селяніна вывозілі з вёскі. Назаўсёды. Я тады мо ўпершыню зразумеў, што на зямлі нашай робіцца нешта не тое. І куды б мяне потым не кідаў лёс, з якіх бы дарог не даводзілася глытаць пыл, я адчуваў сябе нібы стрыножаным. І коні сніліся часта. Асабліва Орлік. Ляцім насустрач сонцу, а паабапал палявой дарогі — высокая збажына...

### VIII

Ужо ў Менску, ідучы аднойчы са Сцяпанам Гаўрусёвым па адной з вуліц горада, убачыў такі малюнак: у двары, між каменіц, стаяў рахманы конік, запрэжаны ў воз на гумовых колах, і нешта з торбы жаваў. Ля яго таўпілася дзятва.

Валошкавыя вочы таварыша засвяціліся. Ён спыніўся. Вусны шапталі:

**У цесным двары**
**Сярод белага дня**
**Убачылі дзеці**
**Жывога каня...**

Я тады не ведаў, што быў сведкам нараджэння новага верша.

### IX

Калі Сцяпана раптам не стала, я зразумеў: ён і сам жыццё пражыў, як у цесным двары. І, зацугляны няўмольным часам, прагнуў нечага светлага, добрага, чыстага...

Не дачакаўся.

...А песня зноў, як бы знарок, як бы жадаючы напомніць пра самае галоўнае, што вышэй за ўсё на свеце, з трэцяга бальнічнага паверха напамінае:

**Ямщик, не гони лошадей.**
**Мне некуда больше спешить.**
**Мне некого больше любить.**
**Ямщик, не гони лошадей...**

Ах, коні, коні!

Ах, людзі, людзі!..

**УПЕРШЫНЮ У «ЛіМе»**

## Люба ЛЯПКО



Мая зямлячка Люба Ляпко любіць паэзію і з маленства піша вершы. Прыйшла ў гэты свет яна ў маляўнічай вёсцы Падлужжа Глускага раёна. Скончыўшы філфак Магілёўскага педінстытута імя Аркадзя Куляшова, вярнулася ў родныя мясціны і працуе ў рэдакцыі раённай газеты «Радзіма».

Шчырыя, пранікнёныя вершы Любы Ляпко друкаваліся ў «Работніцы і сялянцы», «Магілёўскай праўдзе», часта ўпрыгожваюць літаратурныя старонкі раённай газеты. Маладая паэтэса ўдзельнічала ў абласных і рэспубліканскіх нарадах маладых пісьменнікаў.

Некалькі новых вершаў Любы Ляпко прапаную вашай увазе.

Сяргей ГРАХОЎСКІ.

●

**Самую прыгожую кветку —**
**мару жыцця,**
**Самую чыстую крынічку —**
**імкненні свае,**
**Самую шчаслівую хвіліну —**
**кахання пару,**
**Самую звонкую мелодыю —**
**матчыну песню,**
**Самых мужных сыноў,**
**Самых сціплых дачок**
**Я жадаю табе падарыць, БЕЛАРУСЬ!**

## Адданасць

**Ніколечкі ніколі**
**Не пашкадую, людзі,**
**Што ўзгадавала поле,**
**Сагрэла сонца грудзі,**
**Што раўчукі і лужы**
**Упоперак і ўдоўж**
**На вуліцах Падлужжа**
**Аббегла басанож,**
**Што ў жыце васільковым**
**Прайшлі мае гадочкі,**
**Што я была для поля**
**За шчабятуху-дочку.**

## Вёска Згода

**У будні і ў святы**
**Знікаюць суседзі.**
**Вось і ў гэтую хату**
**Ужо ніхто не прыедзе.**

**Нема ўскрыкне душа,**
**І не вытрымаць сэрцу:**
**Стыне печ без цяпла,**
**І няма каму грэцца.**

**Змайстравалі калодзеж**
**Тут на славу мужчыны,**
**А яго за паўгоддзе**
**Запляла павуціна,**

**Бо сусед невясёлы**
**Рэдка ходзіць па ваду,**
**І даўно наваселы**
**Не едуць у Згоду.**

**Каб не плакалі печы**
**І сцены крывыя,**
**Еду я на сустрэчу,**
**Вёскі, ледзьве жывыя.**

●

**— Скажы, дачушка, што малюеш ты,**
**І што цябе хвалюе ў тры гады! —**
**— Я чалавечкаў, мамачка, малюю. —**
**— І ўсе смяюцца! —**
**— Бо такіх люблю я.**

**— Сляза — бяда, — ўздыхнула цяжка**
**маці,—**
**Калі яе няма, святлей заўжды у хаце,**
**— А як бяду малююць! —**
**— Яе, дзіцятка, чуюць,**
**І малявацъ яе не трэба.**

**Зірні, якое сонечнае неба,**
**Вазьмі аловак, чыстае паперы,**
**Малюй усё, што любіш і ў што верыш.**

**МУЗЫКА**

# ЦІ ХОПІЦЬ ЭНТУЗІЯЗМУ Ў ЛАЎРЭАТАЎ?

Іх супольная творчая праца пачалася ўпэўнена і плённа. І не дзіва: сабраліся ж разам трое прафесіяналаў. Не трэба даводзіць, якога майстэрства вымагае такая форма канцэртнай працы, як камерны ансамбль. Першыя іх выступленні сталіся пачаткам яркага канцэртнага шляху, адразу былі адзначаны ўвагай журы конкурсаў і фестываляў, а таксама слухачоў. Здавалася б, усё добра... Але чаму пасля кожнага ўдалага выступлення, калі беларускія музыканты прывозяць міжнародныя прызы, медалі, прэміі, у мяне, напрыклад, у душы ўзнікае нейкі смутак і трывога: ці скончацца нарэшце іх «блуканні па пакутах» і ці павернецца беларускае мастацтва да творчага лёсу сваіх яркіх прадстаўнікоў?..

За плячыма кожнага з іх — гады працы ў Беларускай кансерваторыі, у кожнага ёсць навуковыя працы, з паўсотні вучняў, якія пасяхова працуюць у розных галінах мастацтва. Генадзь Мандрус, Валянціна Пісарчык, Таццяна Брагінец — трыо баяністаў. Маюць багаты разнастайны рэпертуар, аснова якога — уласныя пералажэнні аркестравых партытур для баяннага трыо. Тут і музыка народаў свету: балгарская «Хора», руская «Рассыпуха», румынскі «Жаўранак», «Малдаўская фантазія»... І класіка: Прэлюдыя і фуга рэ мінор І.-С. Баха, «Гатычная сюіта» Л. Бёльмана, «Астурыя» І. Альбеніса... І, вядома, музыка беларуская: творы Д. Смольскага, І. Лучанка, Г. Вагнера, Я. Глебава, А. Мдзівані, В. Помазава, Р. Суруса...

Крыху больш за дзесяць гадоў таму ні ў кансерваторыі, ні ў філармоніі і не заўважылі немалы мастацкі патэнцыял калектыву, які зрабіў першыя крокі. Музыканты пачалі «прабівацца» самі. Ніхто не перашкаджаў ім, але ніхто і не падумаў дапамагчы. Пачалі выступаць у музвучылішчах рэспублікі, потым некалькі гадоў былі пазаштатнымі артыстамі філармоніі (так званымі разавікамі). У тыя гады я працавала ў канцэртна-лекцыйным бюро БДФ і добра помню адносіны да іх з боку кіраўніцтва бюро, вялікую неахвоту да арганізацыі канцэртаў трыо...

Я думаю, што ўпартасць, з якой удзельнікі ансамбля «прабіваліся» і прабіліся ўсё ж у вялікае канцэртнае жыццё, мела пад сабой і ўпэўненасць у сваіх сілах, і жаданне зрабіцца паўнапраўнымі ўдзельнікамі гэтага канцэртнага жыцця, і жаданне даказаць свае права на ўвагу. Ім удалося многае, але якой цаной?..

У час так званых абменных канцэртаў малады ансамбль баяністаў выступіў у Вільнюскай кансерваторыі. Менавіта тады літоўскія музыканты запрасілі беларускіх калег да ўдзелу ў Міжнародным фестывалі баяннай і акардэоннай музыкі, што праходзіў у Вільнюсе ў 1986 г. З таго часу нашы музыканты ўдзельнічалі аж у трох міжнародных вільнюскіх фестывалях і на ўсіх мелі вялікі поспех. Далей — больш: літоўскія сябры параілі паехаць у Клінгенталь (былая ГДР) на міжнародны фестываль. Удзельнікі трыо самі напісалі ў аргкамітэт конкурсу, атрымалі запрашэнне, хутка сабраліся, прыехалі, выступілі, атрымалі дыплом. Узялі ўдзел і ў канцэртах культурнай праграмы конкурсу. Пасля выступленняў у Клінгенталі былі запрошаны ў Балгарыю, на канцэрты культурнай праграмы Міжнароднага конкурсу ў Чарпане, зноў атрымалі дыплом... Можна доўга пералічваць поспехі беларускіх баяністаў на міжнароднай эстрадзе: удзел у першым у Латвіі Міжнародным фестывалі акардэаністаў у Даўгаўпілсе, выступленне ў Музычнай акадэміі ў польскім горадзе Катавіцы, на І Міжнародным фестывалі «Баян і баяністы» ў Маскве; першы прыз на фестывалі імя Дзяржаноўскага ў польскім горадзе Піла...

І паўсюль арганізатары фестываляў і конкурсаў, калегі прасілі ў нашых музыкантаў афішы, буклеты, пласцінкі з іх запісамі... у ансамбля не было (як няма і сёння) нічога, акрамя вельмі ўжо сціплых па мастацкіх якасцях кансерваторскіх афіш. За мяжою не маглі зразумець, як такія артысты дасюль не маюць належнай рэкламы.

Мінулы год быў для трыо надзвычай плённы. Ужо згаданы першы прыз на конкурсе імя Дзяржаноўскага. А ў французскім горадзе Андрэзі'ю-Бутэон музыканты атрымалі залатыя медалі і дыпломы лаўрэатаў на 15-м Міжнародным конкурсе Гран Пры. І гэтак жа ярка выступілі ў італьянскім горадзе Кастэльфідарда, дзе занялі першае месца і атрымалі прэмію.

І вось тут пагаворым пра зусім іншы бок канцэртнай працы трыо — фінансавы. Скажаце, не гэта галоўнае? Не спяшайцеся. Калі пасля іх бліскучай перамогі ў Італіі па маёй просьбе музыканты сабраліся для размовы, гэтую тэму яны хацелі абмінуць. Усё ж я высветліла, што на ўсе фестывалі і конкурсы яны ездзілі за свой кошт. Як? А вось так: іх ніводнага разу ніхто не пасылаў на міжнародныя музычныя форумы. Яны самі пісалі лісты ў аргкамітэты з прапановай выступіць, прасілі дазволу прыехаць. Часам ім падказвалі пра маючыя адбыцца фестывалі ды конкурсы калегі ў замежных паездках, у іншых выпадках — самі здабывалі праспекты будучых конкурсаў... На якія грошы выязджалі? Пазычалі ў сяброў, знаёмых, і потым, пасля вяртання дамоў, доўга, доўга разлічваліся. Гэтая пазыка ішла на дарогу (туды і назад), аплату гасцініцы, харчаванне...

Расказвае Валянціна Пісарчык:

— Упершыню нам аплацілі дарогу ў Францыю. Кансерваторыя звярнулася ў Саюз музычных дзеячаў, і прэзідыум праўлення гэтае пытанне вырашыў. Акрамя таго, намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Пятровіч Рылатка, жадаючы нам дапамагчы, звярнуўся ў оперны тэатр з просьбай пазычыць нам пэўную суму долараў, каб зрабіць на месцы неабходны ўзнос удзельнікаў конкурсу. Праўда, іншыя ўдзельнікі вырашылі не рабіць гэты ўзнос, і мы не маглі пайсці насуперак усім. Так і прывезлі тыя грошы назад...

— Але ў Італіі вы, нарэшце, змаглі неяк вальней сябе адчуць — вы ж атрымалі там прэмію у адзін мільён лір...

— Няёмка неяк, што вы перавялі нашу размову на «грашовую» тэму...

— Гэта мне ўяўляецца зараз прынцыповым: нельга, каб і надалей фінансавыя цяжкасці замянялі вашым творчым імкненням.

— За некалькі дзён да пачатку конкурсу яшчэ не было аніякай пэўнасці наконт таго, ці зможам мы паехаць. Давялося ізноў пазычаць грошы, самім аплачваць дарогу да Венецыі і назад. Хваляваліся — а як там даехаць да месца, як пражыць? Званілі нават у аргкамітэт конкурсу, ды там не абяцалі ўзяць нас на забеспячэнне. Але сакратарка сказала: усё роўна прыязджайце, што-небудзь прыдумаем... І раптам, амаль у апошні момант, мы сталі ўладальнікамі валюты...

— ?..

— Мы знайшлі спонсара. За два дні да ад'езду кансерваторыя падрыхтавала пісьмо на імя генеральнага дырэктара аб'яднання «Белаўтамаз» Лаўрыновіча — з просьбай дапамагчы. Мы атрымалі ад яго пяцьсот долараў, якія дапамаглі нам «выжыць». Чаму мы звярнуліся менавіта да Лаўрыновіча? Гэта была мая прапанова. Справа ў тым, што з Мінскім аўтазаводам звязана жыццё маёй сям'і: маці, бацька, два браты працавалі тут (адзін з братоў і сёння на заводзе), муж мой таксама працуе ва ўпраўленні Галоўнага канструктара. Я — выпускніца музычнай школы № 2 імя М. І. Аладава, «аўтазаводскай»... І мы абяцалі нашаму спонсару «адпрацаваць» гэтыя грошы самым актыўным удзелам у канцэртнай рабоце Палаца культуры і тэхнікі МАЗа...

— Многія могуць падумаць, што, атрымаўшы ў Італіі мільён лір, вы вярнуліся сапраўднымі мільянерамі...

— Разумею ваш жарт... А калі сур'ёзна: пасля аплаты ў Італіі пражывання ў атэлі, харчавання, 20 % падатку, дарогі ад Венецыі да Кастэльфідарда і назад—тое, што засталося, мы «схавалі» на наступны конкурс...

— Спадзяюся, у вашым жыцці абавязкова будзе чарговы конкурс. А сёння віншую вас усіх з выдатнымі вынікамі, асабліва з апошняй перамогай. Мяне ўражвае ваш энтузіязм!..

Я думаю пра тое, што вельмі несправядліва ставіць таленавітых музыкантаў у такія экстрэмальныя ўмовы, якія вымагаюць пастаяннай працы на адным энтузіязме. Трэба ўжо аблягчыць ім існаванне ў гэтай складанай, але для многіх іншых музыкантаў больш спрыяльнай конкурснай прасторы.

У іх павінны быць буклеты, прыстойныя і яркія афішы. Іх можна і трэба запісаць на пласцінку, зрабіць добрыя запісы на БТ і радыё. Сёння наша трыо мае права на пэўны грунтоўны статус. На розных конкурсах, дзе яны выступалі, у праграмах надрукаваны самыя розныя назвы калектыву: «трыо з Мінска», «трыо з Беларусі»... Згадзіцеся, нельга ж усур'ёз аб'яўляць іх «трыо дацэнтаў Беларускай кансерваторыі»...

А якія ў іх канцэртныя стаўкі? Пакуль не адпавядаюць годнасці міжнародных лаўрэатаў. Праўда, кансерваторыя хадайнічае перад Міністэрствам культуры, каб тарыфікавалі іх адпаведна...

Як добра было б, каб знайшоўся пастаянны спонсар. Ён мог бы быць спакойным — музыканты не падвядуць і зробяць славу не толькі сабе, але і спонсару.

І, нарэшце, інструменты, на якіх іграюць музыканты. Гэта кансерваторскія вучэбныя баяны, на іх займаюцца і студэнты. Ці ж гэта нармальна? Разумею складанасць пытання, але трэба нешта рабіць...

Планы ў музыкантаў вельмі цікавыя, але пакуль што толькі ў думках, бо зноў няма ніякай пэўнасці: ці змогуць яны ажыццявіць намеры. Ужо ёсць запрашэнне ў Балгарыю (з просьбай прыняць удзел у канцэртнай праграме) на міжнародны семінар выкладчыкаў-музыкантаў, які мае адбыцца сёлета ў жніўні, а таксама запрашэнне ў канцэртную праграму Міжнароднага конкурсу ў французскім горадзе Страсбургу ў 1993 г.

Нашу размову завяршае Валянціна Пісарчык:

— Хочацца паездзіць, пайграць. Але ж для нас гэта вельмі складана і дорага... Блакітная мара — конкурсы ў амерыканскім горадзе Канзас-Сіці, у Іспаніі... Усе нашы паездкі былі звязаны з такімі затратамі нерваў, фізічных намаганняў, сродкаў, што не ведаем, ці хопіць энтузіязму і сіл надалей...

**Алена РАКАВА.**



Валянціна ПІСАРЧЫК, Генадзь МАНДРУС, Таццяна БРАГІНЕЦ.

Мастацтва скульптуры ўзнікла з жадання адлюстроўваць свае назіранні, замацоўваць у пластычных аб'ёмах і формах усё існае. Скульптура — гэта часцей за ўсё адліты ў бронзе або высечаны з каменя партрэт чалавека. Няхай то будзе помнік герою, партрэт славутага артыста ці статуя ў кампазіцыі гарадскога фантана. Іншы раз такія адлюстраванні бываюць узнятыя на п'едэстал, і гэта неяк падкрэслівае заслугі або асаблівую прывабнасць вобраза-вобліка. Спачатку ўбачанага скульптарам у жыцці. Сярод нас з вамі. Адзначанага нейкім талентам. Які мае пэўныя заслугі перад народам. Які заваяваў прызнанне сучаснікаў. Такі чалавек па праву і прыцягвае да сябе ўвагу. Спачатку мастака або гісторыка, потым — адлюстраваны майстрам — і многіх гледачоў.

Мастацтва скульптуры, шчыра скажу, захапляючае і складанае. Асабліва калі ты прыхільнік рэалістычнага паказу жыццёвай праўды. А я сябе менавіта да такіх мастакоў і адношу. Думаю, найбольш удалыя мае работы могуць пацвердзіць маю вернасць і маю цягу да натуральнасці позаў і твараў, жэстаў і выразу тых фігур, якія ператвараліся мною ў скульптурныя статуі або партрэты. Я даўні прыхільнік класічнага рэалізму.

А пачалося гэта ой як даўно! Аднойчы, яшчэ басаногім хлапчуком, апынуўся я ў лесе паблізу балота, якое называлася Піліпава Лявада! На балотнай выспе ўзвышаліся дубы. Тоўстыя, высокія, з густымі кучаравымі кронамі. Пад імі нават у спякотны дзень прыемная прахалода. У лесе было шмат ягад, асабліва чарніц. Зайшоў я далёка і перапалохаўся. Здавалася, што недзе зусім блізка стаіўся лесавік. Можа, нават за бліжэйшым карчом. Азіраўся і стараўся запомніць дарогу назад. І раптам перада мной дрэвы нібы расступіліся. На паляне, сярод нізкага хмызняку, паказаліся дзіўныя пні. Пэўна, тут была лесасека. Ды толькі пні тыя былі падобныя на жывыя істоты. Вунь у таго — нейкая дзіўная фізіяномія: нос кручком і касматыя бровы. Я крутнуўся ў другі бок, каб пазбавіцца насланнл, а на мяне зірнула другая галава: доўгая шыя, шчарбаты рот, прыплюшчаныя вочы...

Што гэта?

Ледзь не заплакаў ад жудаснага бачання...

Мой вясковы прыяцель Урам прагнаў мой страх. Аказалася, мы апынуліся з ім на паляне Югана Глёка, якога ў нас ведалі ў акрузе па байках і чутках. Гэта быў панскі ляснічы. І надзяліла яго прырода ўменнем выразаць з дрэва чалавечыя твары. І адной сваёй фігурай надта прагнявіў Юган Глёк вяльможнага пана, вось ён і адправіў свайго ляснічага ў далёкі сібірскі край. А выразаныя Юганам пачвары яшчэ доўга стаялі сярод дубоў на балотных выспах.

Мне цяпер здаецца, што менавіта тады, выйшаўшы з таго лесу, што непадалёк ад вёскі Масоры на Сенненшчыне, я адчуў у сабе прагу да рамяства Югана Глёка. Бо і цяпер, здараецца, пачую шэпт дубовай кроны над галавой, убачу расплывістыя белыя аблокі ў нябеснай сіні, адчую пах рачнога пяску, нагрэтага сонцам, і да мяне вяртаецца тое адчуванне боязі перад учарнелымі Юганавымі пачварамі на паляне. І зноў я бачу сябе хлапчуком, для якога пачатак вялікага мастацтва тоіцца ў лясной засені. Ёю, прыродай, падказанае, і ёю ж прыродай, сілкуемае і ўвасабляемае.

Маё хлапецтва працякала пасля ў Віцебску. На берагах Дзвіны, Віцьбы, Лучосы, на прыбярэжных стромах бачыў я дзіўных людзей. З незразумелымі мне стаякамі, на якіх былі напяты кавалкі палатна. З расфарбаванай рознымі фарбамі дошчачкай. Даведаўся, што

# Убачыўшы і пачуўшы...

Заір Азгур

**Размова з гледачом**

гэта мастакі. На натуры. З мальбертамі. Пішуць эскізы. Углядаюцца ў бег ціхаплыннай Дзвіны, ловяць на пэндзаль адпаведную фарбу і кладуць мазок за мазком на палатно. Глядзіш — і рака на палатне прабіваецца між зялёных пагоркаў, на якіх і раскінуўся Віцебск.

Цікава, што славуты Ілья Рэпін аблюбаваў менавіта ў тутэйшых мясцінах невялікі маёнтак Здраўнёва і пасяліўся ў ім. Сярод яго работ ёсць і «На Заходняй Дзвіне. Усход сонца» 1892 года. Потым ён успамінаў, што пісаў карціну, па ягоных словах, «прагна глытаючы» тон блакітнага неба і ружовых пёрыстых аблокаў, і абмялелую ўлетку Дзвіну, і лес за ракой.

Пазней я пасябраваў з віцебскімі мастакамі — Ю. Пэнам, Я. Мініным, С. Юдовіным. Нярэдка бываў на эцюдах разам з імі. І ўсё мне здавалася, што вось за тым паваротам ракі, за парослым ядлоўцам пагоркам мы маглі б убачыць «самога» Ільюю Яфімавіча Рэпіна.



Трыццаць пяць гадоў назад З. Азгур зрабіў помнік Максіму Багдановічу, што ўстаноўлены ў Місхоры непадалёк ад сіняй бухты ў Крыме. У канцы мінулага года скульптар выканаў новы партрэт паэта для музея М. Багдановіча ў Мінску. Фотакарэспандэнт М. Мінковіч зрабіў гэты здымак у майстэрні вядомага мастака перад адпраўкай работы ў экспазіцыю музея.

Праўда, я з юнацтва захапіўся скульптурай. І спазнаваў яе сакрэты ў такога выдатнага майстра, як М. А. Керзін. Аматарам скульптурнага мастацтва знаёма гэта імя. Ён і ўнушыў мне захапленне і пакланенне перад геніем Мікеланджэла. Апантаны мастак, які праз усё жыццё быў асуджаны несці ў сабе пастаяннае адчуванне незадаволенасці ўласнымі работамі, імкнучыся да дасканаласці ў адлюстраванні праўды жыцця. Калі другі мой настаўнік— праслаўлены грузінскі скульптар Я. Нікаладзе гаварыў, што, маўляў, вока бачыць — і рука робіць, а вока не бачыць — рука не робіць, мне здавалася, што і гэта запавет Мікеланджэла.

Сапраўды, мы вучымся ў прыроды. Мы імкнёмся адлюстраваць хараство і гармонію прыроды. Чэрпаем у ёй формы і колер. Мастак узнаўляе тое, што бачыць, што чуе. Усе пяць пачуццяў чалавека ўдзельнічаюць у захапляючым мастацкім працэсе спасціжэння і адлюстравання рэчаіснасці.

Але ўзноўленае ў мастацтве з люстэркавай даставернасцю, з гранічнай праўдападобнасцю — не заўсёды і неабавязкова мастацтва. Ад мастацтва мы чакаем глыбіннага спасціжэння прыгажосці пейзажа, напрыклад, або мудрасці асобы. Глыбіннага! Дакладней: па-мастацку вобразнага. Каб чалавек, убачыўшы скульптуру, раптам адчуў і зразумеў нешта ва ўбачаным раней яму незнаёмае, магчыма, нават і загадкавае для яго, што было схавана ад яго позірку...

Да гэтага я і імкнуўся, робячы партрэт вытанчанага лірыка Максіма Багдановіча. Мне хочацца, каб глядач не толькі падумаў, спыніўшыся каля скульптуры: «Ён!», але яшчэ і як бы пачуў мелодыю душы, адчуў настрой і нават творчы імпэт Паэта. Так, няхай бы падумалася яму пра Паэта з вялікай літары! А на п'едэстале ўсяго толькі галава сурова натхнёнага маладога чалавека з прытуленай да грудзей рукой.

Я доўга шукаў разварот галавы, выраз вачэй, жэст рукі. Каб усё адпавядала падабенству з арыгіналам і — адначасова! — раскрывала б сутнасць паэтычна адоранага характару. З акрэсленым грамадзянскім тэмпераментам.

Калі я ляпіў партрэты і статуі нашага незабыўнага песняра вольнай Беларусі Янкі Купалы або маршала К. Ракасоўскага, драматурга Андрэя Макаёнка або майго калегі скульптара Я. Вучэціча, дык не толькі ўглядаўся ў рысы твару, пранікаючы ў асаблівасці анатамічнай будовы, а стараўся «разгаварыць» іх. Выклікаў на шчырую спрэчку, падбіваў на гаворку пра любімыя кнігі або пра бачаныя краявіды. Мне важна, каб чалавек, пазіруючы мне, быў гранічна «самім сабой». Інакш магу абмежавацца толькі падабенствам.

Не, мне зусім не патрэбна афектацыя. Я супраць якой-небудзь напышлівасці. Мяне цікавіць жывая непаўторнасць чалавечай асобы.

Як і ў прыродзе. Пабывайце ў маім Віцебскім краі. Там яшчэ захаваліся цудоўныя куткі, я сказаў бы, казачнай своеасаблівасці, дзіўнага спалучэння зеляніны і блакіту, густых ценяў і серабрыстай плыні рачных вод. Прырода так расставіла пагоркі і так размясціла лясы на іх, што вашы вочы нібы перадаюць сваё захапленне ўбачаным сэрцу. Такая ява жывой прыроды, якой вы не сустрэнеце больш нідзе. Горка ўсведамляць, што чарнобыльская бяда закранула і гэту прыгажосць.

Мае настаўнікі і калегі па мастацтве часта гаварылі і гавораць пра каштоўны дар, неабходны для творчасці: пра трэніроўку вока і пра паслядоўнае назапашванне навыку браць у прыроды ўрокі гармоніі, меры і хараства.

Калі гаварыць пра ўзаемаадносіны чалавека і Сусвету, дык можна, бадай, згадзіцца з думкай пра тое, што мы, людзі, і дагэтуль насцярожана і трапятліва ўзіраемся і ўслухоўваемся ў імглу светабудовы. Усведамляем, што наш космас — толькі частка нечага загадкавага і недасягальнага. Мастакі тым і заслугоўваюць павагу сучаснікаў і нашчадкаў, што як бы здабываюць з асвоенага намі свету сапраўднае і пераменлівае хараство.

Я гавару пра гэта з асаблівай настойлівасцю, бо мы сталі відавочцамі супярэчлівага развіцця цывілізацыі на Зямлі. Пакараючы прасторы і нетры, утаймоўваючы энергію рэк і ветру, расшчапляючы атам, умешваючыся нават у генетычны код усяго жывога, людзі меліся наблізіцца да ўсеагульнага дабрабыту і справядлівага жыцця. Адмаўляць дасягненні навукі і тэхнікі на карысць чалавека нельга. Але і падзівіцца варта таму, як узброены ведамі чалавек пасеяў амаль паўсюдна пагрозу жудасных войнаў з прымяненнем ядзернай, хімічнай і бактэрыялагічнай зброі. Прывід такой вайны ў маштабах планеты пагражае знішчэннем усяго жывога і ўсяго створанага людзьмі на зямлі. А тэрарызм і прастытуцыя, алкагалізм і наркаманія, мафіёзныя сувязі ў грамадстве і неверагоднае хамства? Усё гэта пранікае ў нашу паўсядзённасць і зневажае чалавечую годнасць. Скажэнне прыроднага свету і выраджэнне прыродных схільнасцей людзей — вось сумная, на жаль, прыкмета нашай цывілізацыі.

Палітыкі і эканамісты шукаюць ратунку. Ваенныя і дыпламаты абяцаюць знайсці выйсце і ўстойлівы мір. Сацыёлагі і філосафы супастаўляюць вопыт мінулых часоў з нашымі днямі. Мне здаецца, што чалавецтва пачынае сумнявацца ў сіле іхніх прагнозаў, рашэнняў і вывадаў. А вось у свеце мастацтва чэрпае для сябе надзеі і прасвятленне.

Я ведаю, што і сёння многія людзі з задавальненнем слухаюць музыку Моцарта і Шастаковіча, Стравінскага і Гершвіна. Мяне радуюць гледачы на вернісажах, дзе экспануюцца палотны і кампазіцыі класікаў жывапісу і дойлідства — Рэмбрандта ці Марціроса Сар'яна, Марка Шагала ці Пікасо, майго земляка Міхаіла Савіцкага ці кітайскага чарадзея Ці Байшы. Калі я чую, як каля тэатра пытаюцца «пра лішні білецік» на балет «Кармэн-сюіту» ў Мінску або на спектакль «Дзядзька Ваня» з Літвы, я неяк супакойваюся. Ёсць яшчэ ў людзях імкненне далучацца да хараства праз увасабленне яго ў розных відах мастацтва.

Сіла мастацтва — у яго прыродным паходжанні. Успомнім, што нават у такой галіне, як музыка, мы нібы бачым і чуем марскую стыхію ў творах Рымскага-Корсакава, Дэбюсі або Чурлёніса. Цудоўную санату Бетховена называем «Месяцавай».

Тое ж і ў скульптуры. Тут мне, напрыклад, даводзіцца спалучаць маю задуму, маё ўяўленне пра таго або іншага чалавека, партрэт якога я раблю, з вернасцю жывой прыродзе яго анатамічнай пабудовы, яго фізіянамічных выразаў, ягоным позам і жэстам. Безумоўна, скульптар мысленна «ставіць» тую або іншую мізансцэну, «размяшчае» фігуру ў прасторы. Але ні на хвіліну не забывае пра нязмушанасць як пра самае галоўнае ў абліччы пазіруемага.

Наведвальнікі маёй майстэрні іншы раз адзначаюць менавіта гэта — нязмушанасць, і мне вельмі дарагое такое прызнанне. Як няпроста даваліся мне падабенства і непасрэдная «жывасць» у партрэтах майго сябра Кузьмы Чорнага або адважнага партызана часоў Вялікай Айчыннай вайны Бацькі Міная, паэта Аркадзя Куляшова і артыста Саламона Міхоэлса!

На ўласным вопыце я спасцігаў тую ісціну, што ў скульптуры адлюстравана бывае толькі адно імгненне, толькі адзін стан чалавека. І праз гэту адзінкавасць ты павінен сказаць пра яго «амаль усё». Вось і шукаеш позу і выраз такія, каб гэтае статуарнае імгненне было як бы затрыманым рухам у пераходзе ад аднаго становішча да другога. Радэн называў гэта імкненнем перадаць у скульптуры частку таго, што ўжо было, з прадчуваннем таго, што будзе. Па-мойму, дасягнуўшы такой выразнасці, мастак набліжаецца да прыроднай, да натуральнай праўды адлюстраванага ім.

Я гавару аб праўдзе адлюстраванага, бо скульптура — маё рамяство — гэта аб'ёмна-прасторавае адлюстраванне, у якім каштоўна ўсё: і гарманічная прапарцыянальнасць, і дакладнасць сілуэта, і дынамічнасць зафіксаванага імгнення, і акрэсленая пластычнасць.

Вядома, і тут працуюць мастакі-эксперыментатары, якія шукаюць сімволіку ў абстрактных кубах і шарах, у мудрагелістых формах і абрысах. Магчыма, і ў іх бываюць удачы. І яны таксама нешта паведамляюць гледачу, «нясуць інфармацыю». Не бяруся меркаваць. Гэта — не маё. Я адчуваю сваё прызванне і нават свой абавязак прытрымлівацца натуральнасці прыроднага выяўлення хараства і праўды.

Мяне ўражвае адна неаб'ектыўнасць, з якой розныя пакаленні людзей углядаюцца ў бессмяротную «Тайную вячэру» Леанарда да Вінчы. За сталом сядзяць за трапезай засяроджаныя на сваёй размове-спрэчцы барадатыя мужчыны сярэдніх гадоў. Усё тут праўдзіва — і адзенне персанажаў, і іх прычоскі, і посуд на стале, і асвятленне. Адлюстравана быццам бы вельмі бытавая падзея. І такая глыбіня страсці, такія заблытаныя сувязі паміж давер'ем і сумненнем, падазрэннем і вернасцю, ліслівасцю і здрадніцтвам!

Уедлівы глядач, аднак, знаходзіць у карціне «прыкрую недакладнасць». Звернуты да нас бок стала чамусьці зусім свабодны ад посуду. Выходзіць, гэта — сцэна! Падстроена ўсё. Расстаўлена...

Ці да гэтай недакладнасці нам, захопленым агульнай праўдай усіх дэталей і агульнай задумы! Ніякая выпадковая неадпаведнасць у кампазіцыі не перашкаджае нам верыць праўдзе адлюстравання і сімвалічнаму зместу бытавой сцэны.

Як своеасаблівы працяг і развіццё падобнага групавога партрэта я ўспрымаю слынную скульптурную кампазіцыю Радэна «Грамадзяне Кале».

Пра дыялектычнае адзінства ў раздваенні і ў шматаблічнасці адной асобы цудоўна сказаў Пушкін у вершах «Да бюста заваёўніка», дзе гаворка ідзе пра скульптуру Аляксандра Першага работы Тарвальдсена:

**Напрасно видишь ты ошибку:**
**Рука искусства навела**
**На мрамор этих уст улыбку,**
**А гнев на хладный лоск чела.**
**Недаром лик сей двуязычен.**
**Таков и был сей властелин:**
**К противочувствиям привычен,**
**В лице и в жизни арлекин.**

Я ганаруся такой рукой мастацтва. Здольнай выяўляць у мармуры тое, што змяшчае ў сабе прырода. Тое ж самае — і на палатне, і ў музычным акордзе, і ў кінематаграфічнай стужцы, у літаратурным слове. Мастацтва не капіруе прыроду, а перадае яе змест і формы ва ўсёй шматгучнасці і ўсёй маляўнічасці. Яно — дзецішча прыроды.

Цывілізацыя ўнесла шмат хламу і разбурэння ў жывы свет прыроды. Нешта ў ёй страчваецца назаўсёды. Захаванню ўсяго каштоўнага і прыгожага ў ёй служыць мастацтва. Толькі яно! Заклікана служыць. Я мяркую — гэта высокае і высакароднае прызванне.

ВІНШУЕМ!

# Ёсць у Літве сябра

**25 студзеня спаўняецца 80 гадоў вядомаму літоўскаму пісьменніку, перакладчыку і прапагандысту беларускай літаратуры Альбінасу Жукаўскасу. Дзядзька Альбінас — за гэтымі словамі яго малодшых беларускіх калег павага да чалавека, які стольні гадоў — не пабаімося паўтору — узводзіць масты дружбы, сяброўства, супрацоўніцтва паміж літоўскім і беларускім народамі. Пачатак ім быў пакладзены ў пасляваенны час, калі А. Жукаўскас стаў перакладчыкам на літоўскую мову і рэдактарам «Анталогіі беларускай паэзіі», што выйшла ў Вільнюсе ў 1949 годзе. Пасля яго намаганнямі было дадзена зялёнае святло анталогіям «З беларускай паэзіі», «Па Нёману песня плыве» (разам з Э. Матузявічусам), выбраным кнігам Я. Купалы, Я. Коласа, А. Куляшова і іншых пісьменнікаў, раману М. Гарэцкага «Віленскія камунары», «Лісткам календара» М. Танка.**

**Да ўсяго А. Жукаўскас неаднаразова выступаў з артыкуламі, прысвечанымі творчасці вядомых беларускіх пісьменнікаў, сучаснаму літаратурнаму працэсу ў нашай рэспубліцы. Беларуская тэма загучала ў такіх яго вершах, як «Ля падножжа Кургана Славы», «Чорны тракт», «Шыбеніца сабе».**

**Творчасць А. Жукаўскаса вядома нашаму чытачу, дзякуючы шматлікім перакладам, у тым ліку і змешчаным у яго кнізе «Бяздомная любоў».**

**Віншуем дзядзьку Альбінаса са слаўным юбілеем, зычым яму новых творчых поспехаў. Не забывайце, Альбінас Пранавіч, што на беларускай зямлі ў вас былі, ёсць і заўсёды будуць *шчырыя сябры*.**

**С. НЕКРАШЭВІЧ.**



Альбінас ЖУКАЎСКАС і Максім ТАНК.
Фота Ул. КРУКА.

# «БРЭЙК-ДАЎН» па-беларуску?

(Пачатак на стар. 5).

Адна з самых надзённых сённяшніх задач—неабходнасць падтрымання біялагічнага існавання народа Беларусі. Вядома, дэпапуляцыі беларусаў не адбудзецца, але нейкі этнічны надлом («брэйк-даўн» па-англійску) ужо адбываецца.

У чым гэта праяўляецца? У першую чаргу ў тым, што, як ужо гаварылася, адбываецца пастаяннае скарачэнне долі беларусаў у насельніцтве рэспублікі (у 1959 г.— 81,1 %, у 1989 г.— 77,9 %). Але тут неабходна адразу ж агаварыцца, што гэтае скарачэнне адбываецца на фоне павелічэння абсалютнай колькасці беларускага народа і абсалютнай колькасці ўсяго насельніцтва рэспублікі. Упершыню колькасць беларусаў у Савецкім Саюзе перавысіла 10 млн. Прырост за 11 гадоў (1979—1989 гг.) склаў 567,3 тысячы чалавек. Але ўсё больш беларусаў жыве за межамі Беларусі. Калі ў 1959 г. у рэспубліцы жыло 82,4 працэнта ўсіх беларусаў, у 1970 г.— 80,5, у 1979 г.— 80,0, то ў 1989 г.— ужо толькі 78,8 працэнта.

Пытанне аб колькасці таго ці іншага народа — не чыста тэарэтычнае *пытанне*. І хоць 10-мільённы беларускі народ можа асабліва не хвалявацца з-за некаторага зніжэння яго долі ў межах сваёй рэспублікі (хоць для нешматлікага народа такое скарачэнне магло б стаць катастрафічным), пэўную трывогу гэта выклікае. У значнай ступені гэтая сітуацыя з'явілася вынікам няўвагі да праблем народа выканаўчай і заканадаўчай уладаў рэспублікі. Мае месца рэзкае пагаршэнне дэмаграфічнай сітуацыі на Беларусі. Толькі за 5 гадоў, з 1986 (нагадаю, год чарнобыльскай катастрофы) па 1990 год натуральны прырост насельніцтва ў рэспубліцы скараціўся больш чым у два разы — з 7,4 да 3,2 (у тым ліку нараджальнасць упала з 17,1 да 13,9, а смяротнасць узрасла з 9,7 да 10,7 у разліку на 1000 чалавек насельніцтва). Чарнобыльская трагедыя паскорыць гэтыя працэсы. І хоць апошнім часам мае месца некаторы рост колькасці шлюбаў (1988 г.— 96,1 тыс., 1989 г.— 97,9 тыс., 1990 г.—99,2 тыс.), колькасць народжаных у рэспубліцы скарачаецца. Толькі з 1986 па 1990 г.— з 172 тыс. да 142 тыс. Многія педыятры рэспублікі, якія назіраюць за здароўем сённяшніх дзяцей, вымушаны прызнаць, што не маюць маральнага права *заклікаць жанчын Беларусі мець больш дзяцей.* Амаль кожнага чацвёртага нованароджанага выпісваюць з радзільных дамоў з сур'ёзнымі неўралагічнымі парушэннямі. Насцярожвае і фарміраванне своеасаблівай шматлікай «секты адрынутых», г. зн. тых маладых людзей («чарнобыльцаў»), з якімі дзяўчаты баяцца ўступаць у шлюб. Гэта сведчыць пра своеасаблівы стан *псіхалагічнага надлому*, нервознасці і невядомасці, які досыць шырока ахапіў насельніцтва рэспублікі.

Натуральны прырост насельніцтва ў сельскай мясцовасці з 1977 г. стабільна адмоўны, смяротнасць перавышае нараджальнасць. А колькі ў нас закінутых вёсак, дзе наогул не пачуеш ні дзявочай песні, ні дзіцячага крыку!

Насцярожвае высокая доля памерлых ад гвалтоўнай смерці — з памерлых у 1990 г. 109,6 тыс. чал. 17,6 тыс., або 16,1 працэнта былі забіты ці скончылі жыццё самагубствам. Рэспубліка мае самыя малыя памеры сельскай сям'і ў краіне. Колькасць зарэгістраваных *разводаў за 20 гадоў узрасла ў нас амаль* у два разы. Працягласць жыцця мужчын за апошнія 17 гадоў у рэспубліцы скарацілася на 1,1 года, а жанчын — на 0,5 года.

Усё гэта сведчыць пра тое, што, на жаль, насельніцтва Беларусі, і ў першую чаргу чарнобыльскай зоны, усё больш губляе свой дэмаграфічны гамеастаз, г. зн. сваю дэмаграфічную сілу ўстойлівасці.

Глыбокі і ўсебаковы крызіс грамадства ўзмацняецца досыць магчымымі ў недалёкай будучыні медыка-генетычнымі зменамі ў народзе.

Толькі ў *заражаных* Чарнобылем *раёнах* жыве 800 тысяч дзяцей, праблема аздараўлення якіх вельмі актуальная. За апошнія 5 гадоў колькасць прыроджаных парокаў у нованароджаных тут павялічылася з 4,1 да 7,7 (з разліку на 1000 чалавек). У той жа час вядома, што пры перавышэнні мяжы ў 8 выпадкаў прыроджаных парокаў на 1000 чалавек насельніцтва ўзнікае *пагроза генафонду* нацыі. Змяняецца таксама характар хвароб; яны працягваюцца даўжэй і маюць больш цяжкую форму.

Важна не забываць і пра тое, што толькі 10 працэнтаў мутацый, якія ўзнікаюць, *праяўляюцца* ў першым пакаленні, пераважная большасць спадчынных мутацый рэцэсіўныя, г. зн. праявяцца ва ўнукаў і праўнукаў. Таму ўсялякія гаворкі пра тое, што, маўляў, *перабольшваецца небяспека жыцця ў зоне* Чарнобыля («і там нараджаюцца здаровыя дзеці»), не толькі не пераканаўчыя, але і кашчунныя.

З 1970 па 1989 г. колькасць асоб з упершыню ўстаноўленым дыягназам «алкагалізм і алкагольны псіхоз» павялічылася ў рэспубліцы ў 2,3 раза, з дыягназам «наркаманія і таксікаманія» — у 6,3 раза. *Захворванне насельніцтва рэспублікі злаякаснымі* новаўтварэннямі ўзрасла ў 1,8 раза.

Тут трэба ўлічваць і тую акалічнасць, што медыка-генетычныя і дэмаграфічныя паказчыкі пры аналізе жыццёвай сітуацыі маюць перавагі перад чыста эканамічнымі, г. зн. у меншай ступені залежаць ад выпадковых ці кан'юнктурных абставін.

У рэспубліцы няма пакуль хоць колькі-небудзь здавальняючага тэарэтычнага абгрунтавання самога паняцця «нацыянальнае адраджэнне». А яго формы могуць быць самымі рознымі — ад палітычнай барацьбы за дасягненне незалежнасці, суверэнітэту да задавальнення культурна-моўных запатрабаванняў, стварэння нацыянальна-культурных аўтаномій. Частка насельніцтва Беларусі стала аб'ядноўвацца па нацыянальнай прыкмеце. У рэспубліцы дзейнічаюць саюз *палякаў*, асацыяцыя ўкраінцаў, рускае, татарскае, азербайджанскае, яўрэйскае і іншыя грамадска-культурныя аб'яднанні. Але паколькі няма тэарэтычнага абгрунтавання самога паняцця «нацыянальнае адраджэнне», няма і канцэпцыі рэспубліканскай нацыянальнай палітыкі. Як жа рухацца па дарозе наперад, калі няясна, якая яе працягласць, якім транспартам ехаць, *якіх спадарожнікаў браць з сабою?* Так, нацыянальнае пытанне ў Беларусі не стаіць на першым месцы. Але гэта не азначае, што з нацыянальнымі праблемамі ў рэспубліцы ўсё добра.

*Нельга* не забывацца на тое, што хоць у этнічных адносінах Беларусь і ўяўляе сабой рэгіён са значнай перавагай карэннага насельніцтва, тым не менш у рэспубліцы можна дакладна вылучыць чатыры буйныя групы насельніцтва: 1) беларусы (7904,6 тыс. чал.); 2) прадстаўнікі народаў, якія не маюць у рэспубліцы свайго адміністратыўна-палітычнага ўладкавання, *але якія маюць яго за межамі рэспублікі,*— рускія (1324,1 тыс. чал.), украінцы (291,0 тыс. чал.), татары (12,4 тыс. чал.), азербайджанцы (5,0 тыс. чал.), малдаване (5,0 тыс. чал.), армяне (4,9 тыс. чал.), узбекі (3,5 тыс. чал.); 3) гэтую групу складаюць прадстаўнікі народаў, дзяржаўна аформленыя за межамі краіны: палякі — 417,7 тыс. чал. (Рэспубліка Польшча), яўрэі — 111,9 тыс. *чал.* (Ізраіль), немцы — 3,5 тыс. чал. (Германія); 4) асобныя нацыянальныя і рэлігійныя групы — напрыклад, цыгане (10,8 тыс. чал). І ў кожнай з гэтых груп ёсць свае, спецыфічныя праблемы.

Усведамляючы наяўнасць «беларускай праблемы» ў Літве, Латвіі і Польшчы і «літоўскай», «латвійскай» і «польскай» праблемы на Беларусі, з мэтай выпрацоўкі ўзаемазацікаўленай палітыкі, якая закранае інтарэсы гэтых нацыянальных меншасцяў, павінен быць створаны механізм узаемнай зацікаўленасці Беларусі, *Літвы*, Украіны, *Латвіі*, Расіі і Польшчы ў вырашэнні гэтых праблем, як састаўной часткі міждзяржаўных адносін. Гэты механізм павінен уключаць стварэнне сістэмы сумесных органаў пастаяннага ўзгаднення пазіцый гэтых дзяржаў па ўсіх пытаннях, што тычацца дадзенай праблемы. Функцыі гэтага механізма не павінны абмяжоўвацца толькі вырашэннем цякучых пытанняў, а ўключаць пастаяннае вядзенне дыялога, якое павінна забяспечваць прыняцце *рашэнняў кіраўніцтвам гэтых краін* з улікам інтарэсаў адзін аднаго як шляхам афіцыйна зафіксіраваных пагадненняў аб статусе беларускай меншасці ў Літве, Расіі, Украіне, Латвіі, Польшчы і літоўска-польска-латвійска-руска-ўкраінскага насельніцтва на Беларусі, так і каардынацыяй акцый без фармальнага заключэння пагадненняў. Было б разумна стварыць пры Савеце Міністраў рэспублікі Камітэт па нацыянальных праблемах ці хоць інстытут Упаўнаважаных па справах нацыянальнасцей.

Не трэба думаць, быццам усе міждзяржаўныя супярэчнасці ўжо праявіліся, ужо заявілі аб сабе. Хутчэй за ўсё гэтыя працэсы будуць узнікаць і развівацца і ў будучым. Трэба мець на ўвазе і тую акалічнасць, што нацыянальныя праблемы параўнаўча рэдка праяўляюцца ў чыстым выглядзе. У многіх выпадках іх цяжка аддзяліць ад супярэчнасцей, якія ўзнікаюць *на рэлігійнай глебе*. Так, у недалёкім будучым у рэспубліцы не выключана сітуацыя, пры якой могуць пачацца трэнні паміж беларуска-праваслаўным і беларуска-уніяцкім, з аднаго боку, і польска-каталіцкім насельніцтвам (што жыве ў асноўным на захадзе — у Гродзенскай вобласці), з другога. Гісторыя ж сведчыць, што рэлігійныя канфлікты — адны з самых небяспечных.

Хацелася б адзначыць і наступнае. Дагэтуль вельмі многія на Беларусі глядзяць на беластоцкіх беларусаў як на пацыентаў, а на сябе — як на ўрачоў. *Але, думаю, калі б у 100 беларусаў, што* жывуць у Беластоцкім ваяводстве Польшчы, спыталі б: «Ці хацелі б вы пераехаць на пастаяннае месца жыхарства ў Беларусь?», 99 адказалі б адмоўна. Прычына адна — больш высокі ўзровень жыцця ў Польшчы. Нельга не пагадзіцца са старшынёй Рады Маскоўскага гарадскога таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны А. Драянковым: «Беластоцкія беларусы змагаюцца за свае правы, але не за злучэнне з Беларуссю» («ЛіМ», 20.9.91 г.).

Вось далёка не поўны пералік толькі этнарэлігійных, *дэмаграфічных і генетыка-медыцынскіх праблем*, што стаяць перад рэспублікай. Хачу падкрэсліць — весці пра іх гаворку трэба на высокім прафесійным узроўні. Асабліва шкодны дылетантызм у такім хваравітым пытанні, як нацыянальнае, бо яно закранае як нацыянальную і дзяржаўную годнасць цэлых народаў і дзяржаў, так і пачуцці кожнага асобнага чалавека.

Быць спецыялістам па міжнацыянальных адносінах само па сабе няпроста. Асабліва цяпер, калі гэтыя праблемы сталі гранічна хваравітымі. Успомнім, *напрыклад, да якога выбуху нацыянальных страсцей* прывяла неасцярожна зробленая прэс-сакратаром Прэзідэнта РСФСР П. Вашчанавым заява аб тым, што перад рэспублікамі, якія абвясцілі незалежнасць, Расія «пакідае за сабой права паставіць пытанне аб пераглядзе межаў».

У руху нацый, якія вызваліліся ад дыктатуры цэнтра, ёсць падводныя камяні. І самы небяспечны з іх — крайні нацыяналізм. Нацыяналізм, што нарадзіўся ў Еўропе прыкладна 500 гадоў таму, валодае велізарнай сілай. Сама сутнасць гэтага руху *рашуча абвяргае вузкую фармуліроўку* «Камуністычнага Маніфеста» Маркса—«гісторыя ўсяго папярэдняга грамадства ёсць гісторыя барацьбы класаў». Так, Вернер Зомбарт, нямецкі філосаф XIX стагоддзя, у сваёй рабоце «Сацыялізм і сацыяльны рух у XIX ст.» выводзіў сваю «сінтэтычную формулу», па якой «уся гісторыя грамадства круціцца вакол двух родаў супярэчнасцей, як вакол двух полюсаў: я іх называю сацыяльнымі і нацыянальнымі супярэчнасцямі». Невыпадкова таму нацыяналізм — ідэалогія і дня ўчарашняга, і дня сённяшняга, і дня заўтрашняга. Нацыяналізм — пануючы прынцып сучаснай эпохі. Ён усё больш набывае характар паўсюднай, усеагульнай з'явы.

Раней эканоміка Беларусі і яе геаграфічнае становішча не стварылі перадумоў для сепаратысцкіх тэндэнцый. У выніку свайго прамежкавага становішча паміж двума прамысловымі цэнтрамі Расіі — Цэнтральнай *Расіяй* і *Царствам Польскім* — *Беларусь* адчувала схільнасць то да Масквы, то да Варшавы, што затрымлівала ўзнікненне самастойнага нацыянальнага руху. Цяпер нацыяналізм на Беларусі набывае новы сэнс, садзейнічаючы адраджэнню нацыянальных каштоўнасцей, усяго беларускага народа. Аднак трэба памятаць, што гісторыя ведае нямала выпадкаў, калі рухі, якія пачыналіся з высакародных лозунгаў нацыянальнага вызвалення, выраджаліся ў рэакцыйна-шавіністычныя.

Палітызацыя этнічнасці нацыянальнай большасці ў рэспубліцы будзе мець, бясспрэчна, прагрэсіўны характар для лёсаў самой большасці. Але адначасова ці *не стане яна прычынай рэгрэсу меншасці*, асуджэння яе на маргінальнасць ці здранцвелую нейтральнасць? Важны адзін прынцыповы момант, які заўсёды ўзнікае ў нацыянальных рэгіёнах пры ломцы старых структур і стварэнні новых. І тут, памойму, сказаць лепш, чым сказаў Прэзідэнт Рэспублікі Кыргызстан Аскар Акаеў, немагчыма: «*Калі справа патрабуе ведання мовы*, укладу жыцця карэннага народа — вельмі важна, каб гэты чалавек быў кыргызам. А калі гэта агульнаэканамічная праблема і ёсць спецыяліст-кыргыз, здольны з ёю справіцца, *тады гэта важна ўдвая*, бо садзейнічае росту самасвядомасці кыргызскай нацыі. Але калі мы бачым, *што праблему лепш вырашыць* больш кампетэнтны, больш прафесійны беларус ці карэец — без сумненняў даручым яму. А кыргыза паставім побач, няхай вучыцца».

Значыць так: нацыяналізм і незалежнасць. За «*звязкаю*» *гэтых паняццяў можа хавацца цэлы клубок* складаных праблем. Пра некаторыя з іх я і спрабаваў тут расказаць.

Вячаслаў АДАМЧЫК

# БЕРЛІНСКІ ДЗЁННІК

## IV

**Субота, 15 чэрвеня 1991 года.**

Ментолавы ці мятны пах зубное пасты вярнуў мне першыя дні ліпеня сорак першага года, калі мы, дзеці спаленай вёскі, пабеглі на поплаў да надрэчнага алешніку, адкуль раненька выбраўся, пастаяўшы сутак трое, конны абоз, і там падымалі пляскатыя цынкавыя цюбікі— яны, здавалася, пахлі, як цукеркі,—і не ўсе мы ведалі, што гэта была звычайная зубная паста. Помню нечы крык: «Не еш—атрута!» і голас у адказ—ужо знаўцы: «Гэта—мазь, зубы чысціць». Гаварыў нашмат старэйшы за нас Коля Рак, які ўжо абышоў ажно двойчы алешнік, спадзеючыся знайсці ў кустах, як і яго сусед, забыты салдацкі веласіпед.

Успамінаецца, паўстае вайна, а ўслед за ёю і пытанне: дзе ж цяпер тыя немцы-абознікі, што стаялі каля пажарышчаў імі ж спаленай нявіннай беларускай вёскі? Нехта з іх, прайшоўшы вайну, усё яе страшнае пекла, цудам і дзівам застаўся жыць і цяпер, нямогла падымаючы руку, даючы знак шафёру, каб хвілінку счакаў, ледзьве сунецца хворымі старэчымі нагамі да нашага двухпавярховага аўтобуса.

Між іншым, так і падумалася, калі на прыпынку ў нялюдным, па-правінцыйнаму зацішным Стэгліцу, што перакладаецца на просценькае—Шчыглы, да аўтобуса спяшаўся нямоглы, ссутулена-сівы мужчына.

Сёння нечакана для самога сябе на пероне нашай станцыі Берлін—Ванзэе заўважыў мноства немаладых, сухарлявых, з пышнымі ад завіўкі валасамі — папраўдзе, як пух дзьмухаўцоў, — яшчэ шпаркіх і ружовашчокіх не па гадах немак і мімволі падумаў: глядзі, колькі адзінокіх кабет, бо ніводнага дзядка з імі. І ўжо з гаркатою ўдакладніў: яны, іхнія мужыкі, іхнія любыя і нялюбыя, засталіся недзе там, далёка за маёю спаленаю Babakомшчынаю...

**Серада, 19 чэрвеня 1991 года.**

Сёння едзем у Метраполіс, дзе экспануецца сучасны мадэрнізм—чорная панчоха ў чырвонай скрыні. Але мяне цікавіць найбольш фотавыстаўка, прысвечаная 50-годдзю другой сусветнай вайны. Што ж самі пра сябе пакажуць немцы? Няўжо будзе хітранька прыхавана і затушована праўда, як гэта звычайна робіцца ў нашай дакументалістыцы? Але ж ці толькі ў нас? Бо нават Нюрнбергскі судовы працэс—тая ж аднабокая палітыка, тая ж паўпраўда аб вайне.

Не ведаю, што сказалі б мацяркі тым сынам, якія апранулі чужую вайсковую форму—варожую—удакладнім. Прыгадваюцца толькі словы «роднага бацькі»: «Палонных у нас няма!» А яны былі, ды яшчэ колькі іх, ды яшчэ ў чужых мундзірах. Я іх бачыў сам і ўчора глядзеў зноў, толькі ўжо на фотаздымках, наклееных на стэндах усё ж такі унікальнай фотавыстаўкі. Поруч з Андрэем Уласавым, высока-сутулым, губатым і падслепаватым, бо ў акулярах,—Браніслаў Камінскі, падобны да местачковага хлюсціка ці фраера, і поруч з апошнім—салдат-ад'ютант, як і ўсе яны, у нямецкай форме са знаёмым мне шаўронам на рукаве»—«РОНА».

П'яных да бяспамяцтва ад атручанага сінім каменем ці карбідам местачковага самагону, у абношаных нямецкіх шынялях ронаўцаў я бачыў у нашым мястэчку з разбітымі, разрабаванымі ўжо яўрэйскімі хатамі. Як праўдзіва прыкмеціў Талстой, апісваючы разбураны набегам каўказскі аул, нянавісці да гэтай салдатні не было, апроч «отвращения, гадливости и недоумения». І быў яшчэ страх перад іхняй нечалавечай жорсткасцю.

**22.10 — на гадзінку пазнейшага мінскага часу.**

Між двума высокімі букамі, між іхнімі раскідзістымі кронамі—невысокі жоўта-чырванаваты месяц, што бярэцца пад поўню.

Такі самы, як пяцьдзесят гадоў назад, калі ён пагодным чэрвеньскім надвячоркам затоена-ціха зазіраў да нас у яму з сыпкімі пясчанымі сценамі, дзе мы збіраліся начаваць пасля таго страшнага дня 30 чэрвеня, калі была расстраляна запальнымі снарадамі і згарэла датла наша Babakомшчына.

Яму, рыхтуючыся ўжо да бяды, выкапаў і настоліў бацька. Але яго ў той вечар з намі не было. Зранку ён пайшоў у мястэчка, адкуль ужо не вярнуўся, як не вярнуліся дадому многія babakомскія мужчыны—іх арыштавалі немцы і разам з местачковымі яўрэямі далучылі да палонных савецкіх салдат.

Раз за разам усхліпваючы, маці адзінока гаравала, а нам, дзецям, было нават весела і нова ляжаць на старых уцалелых каптанах у чуйна-халаднаватай яме і бачыць у прагале дрэў залацістую раўнадушную поўню.

Поруч пад старымі яблынямі ў гэтакіх самых выкапаных і настоленых ямах вялікаю, можа, на душ дзесяць, сям'ёю кладіся спаць Амельянавыя, далей, з няменшай колькасцю дзяцей, Міхаілавыя. Чуўся нават дурнавата-распусны хлапечы рогат і дзявочы нестрыманы смяшок, а потым злосны вокрык бацькоў.

На грудку, праз вуліцу, за абпаленым бэзам і пачарнелымі абгарэлымі бярэзінамі курыліся і смуродзілі сінім нізкім дымам яшчэ гарачыя пажарышчы з белымі горна-адзінокімі печамі.

Чырвоны прыгожы двухпавярховы дамок з байніцамі, з вострым гатычным дахам, з белымі вокнамі, а за ім—зялёныя прысады, залацісты месяц, а пад гэтым месяцам—глухавата-далёкі перастук берлінскай электрычкі...

Таксама нібы дома, але ўжо ў цяперашнім часе.

Ці думаў той васьмігадовы хлопчык, што клаўся спаць у яме пад светлаю поўняю, што ўбачыць яе роўна праз пяцьдзесят гадоў з невядомага яму Берліна, а хіба спадзяваўся, мог уявіць сабе і нямецкі салдат, што нехта з пагарэльцаў апыніцца ў яго зялёнай прыгожай Ванзэе з чырвонымі дагледжанымі віламі—кожная на свой манер, кожная пад стыль і густ гаспадара, —і ўспомніць спаленую вёску і сябе малога, што спаў у даўнейшай карапляной яме, асвечаны поўняй.

**Аўторак, 25 чэрвеня 1991 года.**

Учора творчы вечар у зале з белаю мармуроваю каланадаю, з цёмна-карычневаю, пад колер каштана, столлю з келіхамі-плафонамі і ружова-сінім прыгожым небам за высокімі тыльнымі вокнамі. І, дарэчы, з сухім віном...

Было чалавек дваццаць. Уважлівыя твары дзяўчатак і хлопцаў. Усё, здаецца, як дома. Толькі высокія прычоскі хлопцаў пад даўнейшую польку, пад афіцэраў часу вайны напамінаюць, што перад табою немцы. І ў таго-сяго не нашая манера сядзець, як сядзіць моладзь у электрычцы.

Рандаў чытаў у сваім перакладзе «Салодкія яблыкі». Зашмат, ажно 16 старонак. Але слухалі ўважліва...

**Пятніца, 28 чэрвеня 1991 года.**

Зноў жа тым самым 118 маршрутным аўтобусам праехаў зялёны, прыхаваны лістотаю дубоў, ліпаў і клёнаў нейкі рахманы і зусім ужо, здаецца, асвойтаны Берлін і зноў вярнуўся на вілу з адчуваннем прыніжанасці і сораму.

З Норбертам Рандавым наведалі Інстытут даследаванняў Усходу—Славішэс Семінар, дзе ў даволі грунтоўнай бібліятэцы з добрым запасам энцыклапедыяў, слоўнікаў, лексіконаў, даведнікаў я натрапіў зноў жа на самую бедную колькасць кніжак—беларускі аддзел. На паліцах не было ні «Полымя», ні «Маладосці»...

Салідна і важна прадстаўлена польская літаратура. Некалькі паліц займае прыгожа пераплеценая «Культура» — польскі эміграцыйны часопіс.

У літоўскім аддзеле знайшліся выдадзеныя ў Празе—мы ўсе ёй павінны пакланіцца!—і Кёнігсберзе (чамусьці готыкай) «Новы запавет» (1865, 1866) і Данелайціс (1869). І што ж ужо скажаш пра нас, пра ўсе выдавецтвы і ўсіх перакладчыкаў, калі мы да сённяшняга дня яшчэ не перавыдалі «Новы запавет». Балазе, можна купіць таронтцкае выданне.

Пішу не толькі з адчаем, а нават з асцярогаю—па-нямецку яшчэ не выходзіў Янка Купала. А цяпер, каб выдаць беларускую кніжку, патрэбны і аўтарытэтны паэт-перакладчык і выдавец, які ўзяў бы на сябе ўвесь кошт безганарарнага выдання. А ці знойдзецца такі самаахвярны паэт і выдавец? Кожнаму трэба жыць.

**Субота, 29 чэрвеня 1991 года.**

Усю ноч—буралом, усю ноч—густы, вадаспадны шум раскалыханых дрэў. І ўсенькая ноч з трывожнымі снамі, з частым прачынаннем.

Тут, у няблізкім ад дому Берліне, з

---

Заканчэнне. Пачатак у №№ 1—3.

**ЧАСОПІСЫ: СНЕЖАНЬСКІЯ НУМАРЫ**

# Няма пракаў у Айчыне?

Пачнём з «Беларусі». На маю думку, менавіта ў «Беларусі» прысутнічаюць публікацыі, што ў многім адказваюць на пытанні, якія мы, куды ідзём, да чаго імкнёмся.

Інтэрв'ю са Станіславам Станіслававічам Шушкевічам... Не ведаю, хто гутарыў з кіраўніком беларускага парламента — подпісу пад матэрыялам няма, але гэта не проста адказы на пастаўленыя пытанні, а споведзь. Менавіта споведзь... Бываюць жа ў кожнага моманты, калі хочацца з людзьмі падзяліцца тым, што на сэрцы, у душы, а тут якраз адпаведная нагода надарылася. «Ніякая пасада не зменіць прынцыпаў, якімі я кіруюся ўсё жыццё»— ужо сама назва інтэрв'ю сімптаматычная. А вось паасобныя вытрымкі: «Я не хадок супраць свайго сумлення, не падладжваюся ні пад «правых», ні пад «левых»; «Малюся на Быкава, вельмі падабаецца жартаўлівасць Барадуліна. Шкада, што работа адбірае шмат часу, што многія цікавыя кнігі даводзіцца толькі праглядаць»; «Я не саромеюся гэтага сказаць: Багдановіча зразумеў толькі пад час майго абрання народным дэпутатам, хаця многія вершы памятаў яшчэ са школы»...

Не сакрэт, што ёсць розныя думкі адносна дзейнасці С. Шушкевіча на пасадзе Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі. Кожны мае права на сваю пазіцыю. Але калі чалавек выказваецца шчыра, ён не можа не выклікаць павагі.

Усхвалявала сваёй споведдзю «Няўжо чалавек — гэта назаўсёды безнадзейна?» Т. Бондар (дарэчы, яе выступленне і змешчана пад рубрыкай «Споведзь»). Пра час і пра сябе, пра супярэчлівасць сучаснасці, пра наша месца ў ім. А яшчэ — пра палярызацыю грамадства і пазіцыю Паэта. Пра дыктат насілля, які пакупова ўсё болей заяўляе аб сабе. Пра наступ бездухоўнага, які спараджае ці не адчай: «Бездухоўнасць, як ракавая пухліна, раз'ядае душы, а лекаў можа і не знайсціся — ні для дзяцей, ні для ўнукаў... І не гаварыць трэба — крыкам крычаць пра гэту пагрозу, а крык перасядае ў горле: куды крычаць? Каму? Словы, якія выдзіраюцца з натоўпу, каб спыніць натоўп, ацверазіць яго, вяртаюцца камянямі: няма прарокаў у сваёй Айчыне, няма.. Божа, як я прагну разумення, простага разумення!»

Такія думкі на зыходзе года былі ў Т. Бондар. А ці ж у адной яе? Пад гэтымі словамі хочацца паставіць і свой подпіс. Страшна, што разам з таталітарнай сістэмай рушыцца і спаконвечнае. Дэфіцытам становіцца дабро, шчырасць, узаемаразуменне. Зноў лозунгі... Проста дзіву даешся: няўжо гэта толькі мы ў свеце не можам абыходзіцца без іх? Кожнае новае пакаленне вылучае свае лозунгі, лічыць іх адзінаправільнымі і патрэбнымі, ды не надта клапоціцца, каб яны перараслі ў дзейнасць. У дзейнасць у імя таго ж Дабра, Шчырасці. Сумленнасці. А жыццё ж ідзе, не адзін год не вернеш, мінуце пражытай вяртання няма.

Пра гэтыя самыя страчаныя мінуты, гады, дзесяцігоддзі верш Я. Пфляўмбаўм «Час ападаў». Іншыя выданні ўжо знаёмілі чытача з гэтай таленавітай паэтэсай. «Беларусь» робіць гэта цяпер. Лепш позна, чым ніколі, кажуць. А галоўнае — вершы такія, што просяцца на цытаванне:

**Цэлы год, не прабіўшыся,**
**слёзы жылі —**
**Чысты зрок пільнавалі,**
**Дык чаму ж яны зараз**
**ручаём паплылі —**
**Не стрывалі.**

**Намнажаецца боль, сёння,**
**заўтра ўсё больш,**
**А кіруецца ж лёс за адхоны,**
**І штодня ўсё ніжэй нахіляецца столь,**
**І нямее рука абароны.**

**Глухне, глухне спагада —**
**Час ападаў.**

Шмат асабістага, набалелага, раней несказанага і невыказанага. Боль уласны і ўсёісны. Колькі гадоў назад гэта магло ў друк і не патрапіць. Як жа, песімізм і безвыходнасць! Табе баліць, ды так, што трываць немагчыма? Трывай, ды яшчэ пачувай сябе радасным і аптымістычным.

Відаць, тое ж сказалі б і М. Арочку, калі б ён прапанаваў у той час да друку паэму «Страта» («Маладосць»). Не ўзялі б пад увагу тое, што Бацька проста не мог не напісаць пра Сына. Не мог, бо не толькі пра асабістую страту прамаўляе ён, а пра той самы, згаданы ўжо, дэфіцыт дабра і справядлівасці. Паэма ўся — быццам нацяты нерв...

Ці не ўся паэзія снежаньскіх нумароў (М. Пазнякоў у «Маладосці», А. Вольскі, В. Аксак, Н. Гальпяровіч, В. Ракаў, Р. Тармола ў «Полымі») далёкая ад аптымізму. Курапаты, нацыянальны нігілізм, пераацэнка ранейшых поглядаў, жнівеньскія падзеі... Добра, канечне, што паэты нашы перасталі пісаць оды. Але боязна, каб і антыкурапацкія, антысталінскія матывы, гэтаксама як і матывы адраджэнскія не ператварыліся ў літаратурную моду. Пагроза такая — адчувальна. І тут нельга не пагадзіцца з развагамі Н. Пашкевіча («На іншай хвалі светаадчування», «ЛіМ», 1992, № 1). Ён якраз пра гэта сказаў.

...Сама час пагаварыць і пра штонебудзь больш вясёлае, светлае. «Неверагодна-праўдзівая і фантастычна-рэальная аповесць» В. Адамчыка «Падарожжа на Буцафале» («Полымя»), у такім разе, якраз да месца. Бадай, спадар Адамчык павучыўся ў А. Глобуса і М. Шайбака, якія з поспехам і дэтэктывы пішуць, і кінасцэнарыі, і за коміксы бяруцца, запаўняючы «тарычэлевую пустэчу» ў нашай літаратуры. А. магчыма, і так льга сказаць: спачатку іх падахвоціў, а пасля і паказаў; як гэта трэба рабіць. Што аповесць атрымалася — сумнення няма. Падарожжа ў часе (1938, 1918, 1901 год і г. д.) дазволіла В. Адамчыку дзе з гумарам, а дзе ўсур'ёз пагаварыць пра хвалюючыя нас праблемы. Твор, як і многія публікацыі года (маю на ўвазе не толькі снежаньскія нумары часопісаў), аб тым, што трэба паважна ставіцца да памяці, ведаць уласны генетычны

